Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 22 (4822) 5 чэрвеня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Паводле намесніка Прэм'ер-міністра Беларусі Наталлі Качанавай, адкрыццё абноўленага будынка Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача — узор клопату дзяржавы пра моладзь. У 2015-м, аб'яўленым па ініцыятыве Прэзідэнта Беларусі Годам моладзі, маладыя людзі закліканы рэалізаваць свае ініцыятывы, заявіць пра сябе канкрэтнымі справамі на карысць краіне.

✔ Праект Кодэкса аб культуры ўнесены ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У праект уключаны палажэнні законаў, а таксама шэраг нарматыўных прадпісанняў, што змешчаны цяпер у прававых актах Кіраўніка дзяржавы, урада і Міністэрства культуры. Адначасова ў дакуменце замацаваны нормы, якія не прадугледжаны дзеючым заканадаўствам, але маюць важнае значэнне для далейшага ўдасканалення адносін у сферы культуры.

✔ Старажытную актавую пячатку Ефрасінні Полацкай знайшлі на раскопках Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Знаходка — сведчанне таго, што манастыр у XII стагоддзі быў не толькі вялікім духоўным і культурным, але і грамадска-палітычным цэнтрам, дзе актыўна вялася перапіска. Плануецца, што ўнікальны артэфакт будзе дастаўлены ў экспазіцыю сценапісу Спаса-Ефрасіннеўскага храма, якая цяпер прадстаўлена ў Мастацкай галерэі Полацка.

✔ Акцыя «Малююць дзеці», якую распачалі ў мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой», сёлета аб'яднае юных мастакоў Беларусі, Расіі ды Казахстана. Місію пасрэднікаў у праекце ўзялі на сябе дыпламатычныя прадстаўніцтвы гэтых краін. Лепшыя работы будуць прадстаўленыя на агульнай выстаўцы ў музеі абароны крэпасці 25 верасня — у дзень, калі афіцыйна адкрыўся мемарыяльны комплекс.

✔ Узнагароды ўсіх вартасцей заваявалі беларускія кінематаграфісты на XXIV Міжнародным славянскім кінафоруме «Залаты Віцязь», які завяршыўся ў Севастопалі. «Залатога Віцязя» ў конкурсе анімацыйных фільмаў удастоены мультыплікацыйны фільм Ірыны Тарасавай «Лыжка для салдата». У гэтай жа намінацыі «Сярэбраным Віцязем» адзначана работа Ігара Волчака «Ронда-капрычыёза». «Бронзавага Віцязя» ў конкурсе фільмаў для дзяцей журы прысудзіла карціне Алены Туравай «Кіндэрвілейскі прывід».

✔ 12 чэрвеня а 17-й гадзіне ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбудзецца імпрэза, прысвечаная тэме псеўданімаў у сучасным літаратурным працэсе. Уваход вольны.

ISSN 0024-4686



Чытайце на стар. 16

# Палёт «Сіняй птушкі»


Фота Сяргея Ждановіча

*Самая вядомая тэатральная казка пра пошук шчасця — «Сіняя птушка» Марыса Метэрлінка — на сцэне абноўленага ТЮГа.*

# Набыткі і здабыткі

**27 — 29 мая ў Мінску прайшоў VI Міжнародны кангрэс беларусістаў, у якім удзельнічалі навукоўцы з Беларусі, а таксама з адзінаццаці замежных краін.**

Першы міжнародны кангрэс беларусістаў адбыўся ў маі 1991 года. У гэтым годзе і было створана грамадскае аб'яднанне «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў», ганаровым старшынёй якой з'яўляецца доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс. Кангрэсы праводзяцца раз на чатырыпяць гадоў.

Даследчыкі беларускай мовы і культуры ёсць не толькі ў суседніх дзяржавах, але і ў Аўстрыі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Канадзе, Літве, Малдове, Японіі. Па словах старшыні МАБа — прафесара гістарычных навук Міхаіла Касцюка, «намаганнямі замежных калег вывучаюцца і прапагандуюцца духоўныя традыцыі беларускага народа, што спрыяе павышэнню аўтарытэту беларускай дзяржавы ў блізкім і далёкім замежжы». Дарэчы, падчас кангрэса быў абраны новы старшыня грамадскага аб'яднання. Узначаліў МАБ кандыдат культуралогіі Алесь Суша.

Чытайце на стар. 12


Фота Кастуся Дробава

*Удзельнікі кангрэса Анатоль Верабей, Алесь Суша, Вячаслаў Чамярыцкі (злева направа).*

# У гарах Алатау арлінае мора...



Фота Кастуся Дробава

*Алжас Сулейменаў і Мікалай Чаргінец.*

У Казахстанскім універсітэце імя Аль-Фарабі ў Алматы прайшла навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 40-годдзю выдання кнігі Алжаса Сулейменава «Аз і я». Гучалі на ёй і «беларускія матывы».

Тэма суадносін «Слова пра паход Ігаравы» з самымі рознымі фізічнымі і духоўнымі прасторамі, якая некалі захапіла яркага, нераўнадушнага паэта і публіцыста, здаўна хвалявала, не давала спакою ў славянскім свеце, у Беларусі. Праўда, калі зазірнуць у грунтоўны энцыклапедычны даведнік беларускага даследчыка М. Булахава «Слова пра паход Ігаравы» ў літаратуры, мастацтве, навуцы», то там пра А. Сулейменава ніводным радком не ўзгадана. Яно і зразумела: кніга «Аз і я», выдадзеная ў 1975 годзе, выклікала самую негатыўную рэакцыю. Найперш — у Маскве. Алжас Сулейменаў парушыў многія погляды, выклаў сваё суб'ектыўнае бачанне розных бакоў у помніку старажытнарускай літаратуры.

«Маю права памыляцца, — пісаў паэт у прадмове да свайго даследавання, — і прызнаваць і шукаць свае новыя рашэнні». Ён быў упэўнены, што «Слова» варта чытаць не калектывам Мы (Славіст, Цюрколаг, Гісторык, Паэт і інш.), а калектывам Я. Тыя самыя персанажы, але аб'яднаныя ў адной асобе... Ён адмовіўся ад пошуку і выяўлення цюркізмаў у «Слове», а звярнуў увагу на болей важныя, сутнасныя, матывы, на суадносіны, як ён выказаўся, Русі і Поля. Вынік — кніга стала выбухам, парушыла многія стэрэатыпы. А паэта на доўгія гады перасталі друкаваць.

У Беларусі Алжаса Сулейменава чыталі і чытаюць зараз. Вершы яго пераклалі на беларускую мову Рыгор Барадулін і Мікола Мятліцкі. «Што мог распавесці / датчанінпаэт, — / Мог Баян, / Рудакі мог уздыбіць газель. / Час мінуўся: шапталі, шумелі, крычалі, / Ды ў эпоху Цянь-Шаня хтосьці скажа пра ўсё. / Я хачу і магу, абавязаны мовіць, / Я люблю — калі вецер між скалаў / Цянь-Шаня. / Толькі ветразі ўсё ж / Напаўняюцца мерна / (Моцна, з мора паўднёвага) усплёскам / Ціхуткім. / Казахі завуць — / Ала-тау. / Кіргізы завуць — Ала —тоо! / Хакасы завуць — Алтай! / А Цянь-Шань застаецца — Цянь-Шанем. / І стагоддзямі доўжыцца нерухомая непраходнасць. / Я чытаю Цянь-Шань, як новы, як Ноевы міф. / У трох знаках (Жаданне, Магчымасць і Неабходнасць) / Бачны зводдалі ў небе скупы іерогліф». (Пераклад Міколы Мятліцкага.)

Некалькі гадоў назад Алжас Сулейменаў быў запрошаны Пасольствам Казахстана ў Беларусі і Саюзам пісьменнікаў Беларусі на творчы вечар у Мінск. Уражальная сустрэча і сёння ў памяці многіх яе ўдзельнікаў.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Свята вёскі Леванова

Нячаста гісторыя аднаго паселішча становіцца прадметам асобнай кнігі. А ў выпадку з вёскай Леванова Барысаўскага раёна сталася менавіта так. У выдавецтве «Чатыры чвэрці» пабачыла свет асобная кніга пра гэтае цікавае паселішча — «Землякі». Нараджэнне адметнага творчага праекта супала з 130-годдзем вёскі. Падзея адзначаецца 6 чэрвеня. А гасцямі стануць многія і многія цікавыя землякі, тыя, каму зоркі выклалі вялікія дарогі менавіта з Леванова, Мядоцкага краю, як яшчэ называюць гэты куточак Барысаўшчыны.

Да працы над кнігай спрычыніліся настаўнік і краязнаўца Уладзімір Лайкоў, журналіст Міхась Мяцельскі. Шмат у чым у збіранні матэрыялаў, дакументаў, здымкаў дапамагла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, якая, між іншым, з'яўляецца ўраджэнкай гэтага паселішча. Яе словы і ў прадмове да выдання: «...ад сэрца да сэрца панясем памяць аб малой радзіме...». Сапраўды, галоўнае — несці памяць, галоўнае, каб яна кіравала нашымі справамі і дзеямі. А Леванову адно пажаданне — жыць вечна!..

**Сяргей ШЫЧКО**

# На палымяных старонках

Таемная гісторыя кахання Стэфаніі Станюты, шчыры расповед пра жыццё мастацкай вучэльні, пераклады сучаснай замежнай паэзіі і шмат чаго іншага вы знойдзеце на старонках «Полымя» № 7. Фокус увагі ліпеньскага нумара — на нон-фікшн. Дакументальны кірунак сучаснага літпрацэсу прадстаўлены новай часткай дзённікаў Віктара Шніпа «Заўтра была адліга-2» і прозай Адама Глобуса «Вучэльня».

Для пастаянных чытачоў сюрпрызам стане працяг гісторыі таемнага кахання Стэфаніі Станюты. У майскім нумары за мінулы год Святлана Дзянісава распачала пошукі таямнічага Алі, які быў узаемна закаханы ў Станюту і засыпаў актрысу лістамі. Часткова гэта ўнікальнае ліставанне было надрукавана, аднак асоба Алі так і засталася неразгаданай. Ці дапамажа дазнацца праўду графалагічная экспертыза і пра што маўчыць манахіня Вольга?..

Традыцыйная ўвага «Полымя» да замежнага літаратурнага працэсу гэтым разам скіраваная на Сербію. Літаратуразнаўца, славіст і перакладчык Іван Чарота падрыхтаваў падборку перакладаў сучаснай сербскай паэзіі.

Для таго, каб сёмы нумар дый іншыя, не менш цікавыя, дакладна трапілі да вас, не забудзьцеся падпісацца на часопіс «Полымя». Нагадваем падпісныя індэксы:

74985 — індывідуальны;
00471 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
749852 — ведамасны;
00727 — ведамасны льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі.

**Марына ІВАНОВА**

# Паэты і музыкі — разам

Адна з самых маштабных культурных падзей лета чакае жыхароў Беларусі з 5 па 7 чэрвеня. Шырокая панарама сучаснай эстраднай музыкі будзе прадстаўлена на XV Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2015». Пра гэта паведамілі арганізатары форуму на прэс-канферэнцыі, якая прайшла напрыканцы мая ў музеі імя Уладзіміра Мулявіна Белдзяржфілармоніі.

Першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга распавяла: «Фестываль не страчвае сваіх добрых традыцый, але ў той жа час многае будзе прадстаўлена ў новым фармаце. Галоўная мэта — разбурыць міф пра тое, што беларуская песня, у прыватнасці эстрада, губляе сваю папулярнасць, паказаць, якіх дасягненняў дамагліся нашы выканаўцы ў постсавецкі час, за гады незалежнасці рэспублікі».

Паводле слоў першага намесніка міністра, «калісьці публіка змагалася за тое, каб «дастаць» білет на шоу, а цяпер арганізатары канцэртаў змагаюцца за кожнага гледача». У такіх умовах фестываль заклікаsuccessfully ўзгадаць... 

Ірына Дрыга звярнула ўвагу на тое, што праграма сёлетняга фестывалю атрымалася асабліва насычанай і разнастайнай. Чакаецца, што Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста краіны Міхаіла Фінберга выканае пяць праграм, у прыватнасці, прадставіць класічную музыку XX — XI стагоддзяў.

Увесь горад Маладзечна на тры дні ператворыцца ў вялікую культурную пляцоўку, дзе знойдзецца месца выстаўкам дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва народных майстроў, выступленням мясцовых творчых калектываў, забаўляльным праграмам для дзяцей. Адметнасцю стане з'яўленне на сцэне саміх стваральнікаў песень — кампазітараў і аўтараў слоў.

Пачнецца фестываль 5 чэрвеня. Галоўнымі падзеямі стануць канцэрты адкрыцця «Беларусь незалежная ў песнях і вершах» і закрыцця «Вялікія песні вялікага народа» з удзелам айчынных кампазітараў, паэтаў, вядомых выканаўцаў краіны.

Знакавым у Год моладзі стане правядзенне 6 чэрвеня двух тураў рэспубліканскага этапу XV Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, які можа стаць добрым стартам для будучых артыстаў. Маладыя людзі будуць спяваць не пад фанаграму, а ў суправаджэнні аркестра. Пераможца стане ўладальнікам прыза імя Уладзіміра Мулявіна — крыштальнай гітары.

На другі дзень фестывалю гледачы змогуць убачыць адзін з новых праектаў — паэтычную гасцёўню «Красуй, Беларусь», дзе пазнаёмяцца з творчасцю сучасных айчынных літаратараў.

Пасля падвядзення вынікаў, 7 чэрвеня, адбудзецца юбілейны канцэрт кампазітара Алега Молчана «Песня мая...». Майстар прадставіць як класічныя, так і прэм'ерныя кампазіцыі, якія яшчэ нідзе не гучалі.

Завершыць фестываль канцэрт маладых папулярных выканаўцаў «Зоркі» Зорнага дыліжансу», тых, хто быў удзельнікам адной з першых «фабрык» талентаў краіны. У іх ліку — Дзмітрый Калдун, група IOWA, Ганна Шаркунова, Герман.

Народны артыст Беларусі, прафесар і галоўны натхняльнік фестывалю Міхаіл Фінберг адзначыў: «Культурны форум у Маладзечне, які праходзіць з 1993 года, — адзіны ў краіне носіць «званне» нацыянальнага, што яшчэ больш павялічвае яго значнасць». Дарэчы, квіткі на першы канцэрт святочнай падзеі ўжо раскуплены!

**Марыя ВОЙЦІК**

# Найперш класіка!

Паэтычны конкурс сярод супрацоўнікаў ГУУС Мінгарвыканкама «Каля Вечнага агню» адбыўся ў, відаць, самым прыдатным для падобнай імпрэзы месцы — Музеі Вялікай Айчыннай вайны.

Рознага ўзросту і званняў, з неаднолькавым досведам выступлення перад публікай, удзельнікі аднолькава хваляваліся ў імкненні як найлепш перадаць сваім калегам і гасцям боль і памяць былой вайны, падзяліцца гонарам за сваю няпростую працу, распавесці пра родныя мясціны. Так, сімпатычна і вельмі шчыра гучаў верш самага юнага ўдзельніка Максіма Кузюковіча, прысвечаны роднаму Мінску. З гонарам прамаўляліся тут радкі Янкі Купалы пра беларускага мужыка і «беларускіх сыноў», партызанаў, не абышлі ўвагай удзельнікі творы К. Сіманава, Э. Асадава, не забываліся і пра свае радкі. Да прыкладу, пра ўласныя мары і родны Навагрудак прачула распавёў старшы лейтэнант міліцыі Іван Ганікевіч, кранальна гучалі вершы пра вайну ў выкананні прадстаўнікоў Савецкага РУУС. А вось пераможцам конкурсу стаў супрацоўнік палка патрульна-паставой службы міліцыі Юрый Аляб'еў, які выбраў для свайго выступлення выбітны верш Канстанціна Сіманава «Маёр прывёз хлапчыку на лафеце...» — і не памыліўся! Класіка, як заўжды, перамагла.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Вяртанне Максіма

Лепшы сябра Максіма Багдановіча Аркадзь Смоліч гаварыў так: «Кажуць, некалісь — у даўныя суровыя часы былі праведнікі і душа іхняя заўсёды жыла ў высях пад небам. Ад твару іхняга выходзіло святло і напаўняло сэрцы людзкіе міласцю і згодай». Да такіх праведнікаў адносіў ён і Максіма Багдановіча.

Ужо стала традыцыяй, што супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў гэты дзень ладзяць мерапрыемствы па ўшанаванні памяці творцы. Так, аматары таленту паэта ўсклалі кветкі да яго помніка ў сталіцы. Гучалі пранікнёныя песні на яго словы.

З беларускай мовай Маленькі Максім, паводле ўспамінаў бацькі, Адама Ягоравіча Багдановіча, упершыню пазнаёміўся па казках, запісаных са слоў яго бабкі Анэлі. Яе расповеды Адам Ягоравіч уключыў у складзены ім зборнік фальклору «Перажыткі старажытнага светасузірання беларусаў», са старонак якога перад Максімам паўставалі натхняльныя вобразы роднага краю. Міфалагічныя істоты, апісаныя ў кнізе, пазней ажывуць у вершах першай нізкі яго адзінага прыжыццёвага зборніка «Вянок» пад назвай «У зачарованым царстве».

Нягледзячы на тое, што ў гісторыі беларускай літаратуры дзень смерці Максіма Багдановіча — сумная дата, наш паэт вечна жыве на Радзіме, якую ён любіў больш за жыццё.

**Таццяна БАРАДУЛЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Літаратурнага музея Максіма Багдановіча**

# Першае спатканне з...

**Вечарына «Магія роднай мовы», прымеркаваная да Дня памяці Максіма Багдановіча, адбылася ў Літаратурным музеі класіка. Сучасныя паэты і празаікі ўзгадалі свае першыя кнігі на беларускай мове, дзякуючы якім прыйшлі да роднага слова.**

Пісьменнік Навум Гальпяровіч адзначыў: «Вершы, як гэта ні дзіўна, у маленстве я не любіў, апісанні прыроды ўвогуле прапускаў... Пакуль не пазнаёміўся з творам Янкі Маўра «ТВТ». Атрымалася амаль дэтэктыўная гісторыя. З сябрамі мы вырашылі стварыць тайнае таварыства, як у кнізе, але ідэалогія, што панавала на той час, такое свавольства не прапусціла». У юнацкія гады Навум Гальпяровіч «сустрэўся» ў адной з бібліятэк з «Чазеніяй» Уладзіміра Караткевіча і «проста аслупянеў»: аказалася, што ў беларускай літаратуры ёсць каларытныя рамантычныя героі і захапляльныя прыгоды! «Менавіта ад Караткевіча прыйшло жаданне гаварыць па-беларуску. Потым было знаёмства з Максімам Багдановічам. Мяне ўразіла яго лірыка, пачуццёвая, інтэлігентная, чыстая».

Пісьменніца Людміла Рублеўская таксама распавяла пра свой чытацкі досвед: «У маёй школе беларускую мову можна было не вывучаць, але гэта мяне не спыніла. Я любіла казкі, прыгоды! Цікава, што кнігі ў перакладзе на беларускую мову былі меншым дэфіцытам, чым рускамоўныя. Таму менавіта на роднай мове я пазнаёмілася з прыгодамі Гулівера, Бураціна, Мюнхгаўзена. Пераклады, дарэчы, былі вельмі якаснымі. Вось і атрымалася, што акрамя школьнага спіса літаратуры чытала кнігі для душы — хавалася з ліхтарыкам пад ложкам, залазіла на яблыню ці шафу. Таямніца вельмі падкупляла!»

Казачніца Вольга Гапеева, у сваю чаргу, паведаміла, што да беларускай мовы яе прывяла школьная настаўніца: яна прапаноўвала дзецям ствараць тэатралізаваныя сцэнкі паводле твораў, рабіць малюнкі да граматычных правілаў, арганізавала гумарыстычна-паэтычны гурток, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі перапісвалі творы класікаў на жартоўны манер і вучыліся складаць вершы.

Першай кніжкай у жыцці загадчыцы Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Марыны Запартыка быў беларускамоўны Робін Гуд, а пісьменніца Марыя Мартысевіч вучылася чытаць па кніжцы беларускіх народных казак, дзе вельмі акуратна, каляровымі фламастарамі, падкрэслівала самыя цікавыя месцы.

Размова на імпрэзе ішла таксама пра твор Максіма Багдановіча «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык» — умовы яго ўзнікнення, мастацкія якасці і складаны, нават дарослы, сэнс, які ўклаў у паэму аўтар. Ды ўвогуле, як прыйшоў Максім Багдановіч да вытокаў беларушчыны, якую першую беларускую кніжку трымаў у руках? На гэтыя пытанні таксама імкнуліся адказаць госці вечарыны.

Дзень памяці Максіма Багдановіча не абмежаваўся адной толькі імпрэзай. Яшчэ раніцай адбылася памінальная служба ў Саборы святых Пятра і Паўла, а потым — ускладанне кветак да помніка паэту на вуліцы Максіма Багдановіча. Гэта быў час суму, але светлага, бо зямное жыццё паэта, якое скончылася ў ноч на 25 мая 1917 года, дало пачатак жыццю вечнаму.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Вытокі*

# Шляхамі таямніц

**Творчы вечар паэта, перакладчыка, публіцыста, намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Уладзіміра Мазго прайшоў у літаратурным клубе «Шчырасць» пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 22.**

Сярод гасцей — сябры творчай суполкі, навучэнцы і выкладчыкі двух сталічных каледжаў — чыгуначнага і тэхналагічнага. У чытальнай зале разгарнулася выстаўка кніг і публікацый Уладзіміра Мазго.

Кіраўнік клуба, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў адзначыў тэматычную і жанравую разнастайнасць творчасці галоўнага героя імпрэзы. Уладзімір Мазго пазнаёміў слухачоў з асобнымі старонкамі сваёй творчай і жыццёвай біяграфіі, распавёў, як у дзяцінстве марыў стаць мараком. Але жаданне дасканала валодаць роднай мовай, сур'ёзна займацца літаратурай перамагло. «Спасціжэнне таямніц мовы і літаратуры — працэс бясконцы. Чым больш займаешся, тым даўжэйшай здаецца дарога», — зазначыў Уладзімір Мінавіч і параіў падлеткам быць адказнымі ў вызначэнні свайго далейшага жыццёвага шляху.

За гады творчасці ў паэта сабралася цэлая бібліятэка кніг для дзяцей і дарослых: «Пад спеў крыніц», «Вершаліна», «Марафон», «Анёл нябесны», «Сакавіны», «У нябёсах вясны», «Калі спрачаюцца маланкі», «Суседзі па сусвеце», «Смехапад», «Прыгоды марахода»... І літаральна кожная з іх — падзея, вартая ўвагі.

Уладзімір Мазго — лаўрэат літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, Рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон». Многія яго вершы пакладзены на музыку Леанідам Захлеўным, Эдуардам Ханком, Алегам Елісеенкавым...

Падарункам гасцям вечарыны сталі запісы песень на словы Уладзіміра Мазго ў выкананні Анатоля Ярмоленкі, Іны Афанасьевай ды іншых артыстаў беларускай эстрады.

**Наталія ЯРАШЭВІЧ**

# Перамога: летапіс

Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь падвяло вынікі літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Дыпломы I ступені ў галіне прозы і паэзіі, каштоўныя падарункі ўручаны пісьменнікам Мікалаю Чаргінцу за раман «Аперацыя "Кроў"» і Анатолю Сульянаву за кнігу прозы «Непераможныя».

Дыплом II ступені і каштоўны падарунак атрымаў пісьменнік Міхась Пазнякоў за аповесць «Капітан Зыкаў» і кнігу прозы «Хлеб для партызанаў», якая выйшла ў серыі «Дзецi вайны» выдавецтва «Чатыры чвэрці».

Дыпломам III ступені і каштоўным падарункам адзначаны пісьменнік Вячаслаў Бандарэнка за кнігу прозы «Самы доўгі дзень».

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Тэксты пра Сапегу

Гісторыка-літаратурную гасцёўню «Леў Сапега: жыццё дзеля Айчыны» зладзіла цэнтральная раённая кніжніца Бешанковіцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы сумесна з Віцебскім грамадскім аб'яднаннем жанчын «Ульяна».

У імпрэзе бралі ўдзел краязнаўцы, аматары гісторыі, удзельнікі і прызёры конкурсу школьных сачыненняў "Леў Сапега нарадзіўся ў вёсцы Астроўна...». Актыўна далучыліся да спаборніцтва навучэнцы 8 — 11 класаў Астровенскага дзіцячага сада — сярэдняй школы. Лепшыя сачыненні адзначаны дыпломамі Бешанковіцкай ЦБС, а творчасць Ганны Куляшовай, Аляксандры Шарко, Наталлі Ганчаровай, Таццяны Болтыкавай, Ганны Акцызнай, Дзіяны Карэлінай — каштоўнымі падарункамі ад Віцебскага грамадскага аб'яднання жанчын "Ульяна".

Творчыя работы канкурсантаў перададзены ў фонд Астровенскай сельскай бібліятэкі-філіяла № 19 Бешанковіцкай ЦБС. Фонд цэнтральнай раённай бібліятэкі папоўніўся серыяй кніг па гісторыі Беларусі.

**Надзея КУЦ**

# На планеце творцаў

Майскім вечарам завяршыўся першы сезон «Літаратурнай серады ў музеі Петруся Броўкі» — сумеснага праекта ўстановы і інтэрнэт-партала «Textura.by». У імпрэзе пад назвай «Іншая планета» ўзялі ўдзел творцы Беларусі і Расіі.

Гэтым разам публіка пачула вершы Андрэя Фаміцкага, Вольгі Злотнікавай, Ірыны Карэнінай, а таксама спецыяльных гасцей з Масквы — Надзі Дэлаланд і Барыса Куцянкова. Была прадстаўлена і проза: кароткія апавяданні прачыталі Сяргей Календа і Андрэй Дзічэнка. Творцы прэзентавалі ўласныя кнігі, адказвалі на пытанні, нават зладзілі цікавую віктарыну.

Як паведаміў, галоўны рэдактар інтэрнэт-партала «Textura.by» Андрэй Фаміцкі, наступны сезон праекта стартуе восенню. Будзем чакаць новых сустрэч!

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Сустрэліся ў Ілы

Нядаўна вучні і настаўнікі Ільянскай сярэдняй школы імя А. А. Грымаца сустракалі гасцей — паэтаў Міколу Шабовіча і Дзмітрыя Пятровіча. Імпрэза адбылася ў межах Клуба цікавых сустрэч, які працуе пры школьным народным музеі «Вілейшчына літаратурная» (кіраўнік Роза Шэрая).

У вершах і песнях Д. Пятровіч згадваў родны горад Заслаўе, Мікола Шабовіч — вёскі Бадзені і Шыпкі (непадалёк ад Ілы, дзе Мікола Віктаравіч пачынаў настаўніцкую працу).

Прачытаў Мікола Шабовіч свае вершаваныя пароды. Роза Шэрая і Дырэктар школы Ігар Юшко правялі экскурсіі ў школьныя народныя музеі «Вілейшчына літаратурная» і «Ільянскія далягляды».

**Аксана ЯРАШОНАК**

**Мінскае гарадское аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**6 чэрвеня** — *на Пушкінскае свята паэзіі «Я помню дзіўнае імгненне», якое пройдзе каля помніка Аляксандру Пушкіну. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**6 чэрвеня** — *на паэтычную гасцёўню «Красуй, Беларусь!» у малой зале Палаца культуры г. Маладзечна, якая абдудзецца ў межах XV Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**8 чэрвеня** — *на свята дзіцячай літаратуры (у межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай»). Мерапрыемства пройдзе ў Мінскім раённым цэнтры культуры (вул. Вышалескага, 4). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**9 чэрвеня** — *на свята дзіцячай літаратуры (у межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай») у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 10:30.*

**10 чэрвеня** — *на творчы вечар рускай паэтэсы з Лос-Анжэлеса (ЗША) Іны Санінай, які пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**11 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з паэтам, старшынёй МГА СПБ Міхасём Пазняковым. Імпрэза адбудзецца ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Пачатак а 14-й гадзіне.*

## Дэбют

### Аляксей АРЦЁМАЎ



**Аляксей Арцёмаў нарадзіўся ў 1991 годзе ў г. Тула (Расія). Скончыў Тульскі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Сістэмы аўтаматызаванага праектавання». Вершы друкаваліся ў часопісе «Маладосць», іншых выданнях. Займаецца перакладамі паэтычных і празаічных твораў на беларускую мову. У «ЛіМе» публікуецца ўпершыню.**

***

*Блішчыць у шклянцы зорнае святло,*
*А я гляджу на вуліцу скрозь шыбу:*
*Сыходзяць госці (як і не было)*
*Без шкадавання,*
*без тугі фальшывай.*

*Гасцей з'ядае вечаровы змрок.*
*Чакае іх сям'я, а заўтра — праца...*
*З'яўляюцца без мэты, незнарок,*
*Каб назаўжды маўкліва*
*развітацца.*

*Ад развітанняў гэтых не ўцячы.*
*Няхай прыходзяць іншыя знаёмцы:*
*Паляпаюць таропка па плячы,*
*Пагутараць і знікнуць.*
*Цыкл бясконцы...*

## Паляванне на стракоз

*Там, дзе сонца пяшчотай дурманіць,*
*Дзе, як краска, цвіце вербалоз,*
*Абвясцілі сезон палявання*
*На імклівых зялёных стракоз.*

*І, цішком жуючы недакурак,*
*Асцярожны, прыціхлы, як звер,*
*Паляўнічы, знішчальнік казурак,*
*Ледзьве шорхаў у роснай траве.*

*Верыў ён у нябесныя сілы,*
*Бо нядаўна пабачыў у сне*
*Страказіныя яркія крылы*
*Між трафеяў сваіх на сцяне.*

*Рыхтаваліся ўсе да «сафары»,*
*Разбівалі ў малітвах ілбы...*
*Ён адзін напаткаў свае мары*
*І трафей нечуваны здабыў,*

*І нарэшце павесіў у хаце*
*Фатаграфію са страказой...*
*Ён не ведаў: усмешка дзіцяці*
*Стала чыстай крыштальнай слязой.*

## Блюз

*Ноч хутаецца ў цішу давідна,*
*Застылі ў чорным небе аблачыны,*
*А недзе на самоце, ля акна,*
*Сядзіць мая каханая жанчына.*

*Яна глядзіць на горад з вышыні,*
*На ззянне ліхтароў па-над дарогай —*
*Няхай мігцяць зіхоткія агні,*
*Але ў душы святла зусім нямнога.*

*Надзея легкакрылая жыве,*
*Пакуль заўчасна не пачнецца вечар,*
*Калі далёкі блізкі чалавек*
*Прыходзіць, каб абняць яе за плечы.*

*Яго пяшчотна ахінае змрок,*
*І падае сукенка на падлогу...*
*Яна магла б кахаць яго знарок,*
*Але ў душы святла зусім нямнога.*

*Заўжды ў трывозе, побач і адна,*
*Асвенчаная шчасцем, стратай, горам,*
*Сядае на самоце ля акна*
*І роспачна глядзіць на сонны горад.*

*І я не абдыму яе плячэй,*
*Уночы не прыйду — і дзякуй богу!*
*Я б мог быць з ёю ды кахаць яшчэ,*
*Але ў душы святла зусім нямнога.*

### Надзея ПАРЧУК



## Шчырая просьба

*Зазірні да мяне ўранні, сонейка,*
*Сноў світальных маіх не мінай,*
*Як вітаеш ты раніцай гонейкі —*
*Гэтаксама*
*й мяне прывітай.*

*Ад усмешкі тваёй палымянае*
*І мая прасвятлее душа:*
*Ёй засвецяцца гоні ўзараныя,*
*Вёска родная*
*й мілы абшар.*

*Зачаруецца песняю звонкаю,*
*Што над полем і лесам ляціць —*
*Над маёю прыгожай старонкаю,*
*Дзе так хочацца,*
*хочацца жыць...*

## Адказы

*Цікава табе, што раблю?*
*Жыццё пражываю нанава.*
*Я гэта рабіць люблю,*
*як раніца любіць зарыва.*

*Цікава табе, чым жыву?*
*Жыву я адною мараю,*
*каб заўтра сустрэць наяву*
*пунсовую раніцу ўдалую.*

*Навошта мне ў цемру ісці,*
*чаго заставацца ў падмане?*
*Я прагну, імкнуся ў жыцці*
*вітаць маладое світанне.*

## Максіму Багдановічу

*Колькі ж трэба мець любові,*
*Светладушнага пачуцця,*
*Каб знайсці такія словы,*
*Што па свеце адзавуцца!*

*Што пачуюцца праз вечнасць,*
*Закранаючы шчымліва —*
*І сумленне, і сардэчнасць,*
*І душэўную чуллівасць.*

*Ах, Максіме Багдановіч!*
*Як ты рана свет пакінуў,*
*Не спазнаўшы шчасця сходыч,*
*Ды апець паспеў краіну.*

*А куды ж падзець нам горыч,*
*Любы сыне Беларусі?*
*Не спазнаў ты шчасця сходыч —*
*Чашу гора выпіць мусіў.*

## Залачоныя зоркі

*Лета. Чэрвень. А вечар які!*
*Запаліў залачоныя зоркі,*
*Разаслаў туманы ля ракі,*
*Пырснуў водарам росаў салодкіх,*
*Запрасіў да сябе на лугі —*
*Для таемнай пад небам гаворкі, —*
*Праслаўляючы час дарагі,*
*Я вітаю сузор'яў сумолкі!*

### Наталля АЛЕЙНІКАВА



***

*Ціўкаюць раннія птахі ў балоце.*
*Квакаюць жабы. Навокал — святло.*
*Качка схавала малых у чароце.*
*Чую, як пляскае недзе весло...*

*Ранак. І лётаюць мошкі ў паветры.*
*Бачу, на луг за дубовым ляском*
*выгналі коз. Лашчыць сонца. І ветрык*
*песціцца ў жыце, звініць каласком...*

*Хораша як! Каля вёсак мясціны*
*цягнуць і цягнуць мяне маляваць,*
*і, накідаўшы эцюд да карціны,*
*зноў краявіды іду аглядаць.*

## Пасля дажджу ў Белавежскай пушчы

*У пушчы Белавежскай*
*прастор лясных шырот,*
*іду знаёмай сцежкай*
*за дальні паварот —*
*пасля дажджу вільготна,*
*імхом зарослы лес,*
*і ветрычак лагодны*
*на дуб высокі ўзлез,*
*паварушыў галінкі,*
*крануў мой кудзер раз,*
*на пышныя ялінкі*
*ён пералез...*
*Якраз*
*над ізумрудный кронай*
*свяціўся край нябёс,*
*і часам з дробнай кропляй*
*мне ветрык свежасць нёс.*
*Нібы ў чароўнай казцы —*
*вяртацца не хачу! —*
*асвечаны заказнік,*
*душу я палячу...*

***

*Паберажы прасторы родныя, Народ!*
*Каб кожны з нас хваліў*
*свой край і шанаваў,*
*ды справай добрай, нібы сябра,*
*частаваў —*
*зямля б палеская квітнела з году ў год.*
*Паберажы прасторы родныя, Народ.*
*Паберажы! Калі не ты, то хто тады?*
*Хто можа так яшчэ свой*
*родны край кахаць,*
*дзе па вясне ружова-белыя сады*
*у пазалоце сонечнай стаяць!*

## Сёння

*Табе, Чытач, мой сябар, давяраюся.*
*З табой, Чытач, я сёння назаўжды.*
*З адным табою добра пачуваюся*
*і радасна кіруюся туды,*
*дзе лашчаць пяткі травы*
*бясклапотныя,*
*званочкі па калена — благадаць...*
*Прасторы! Прывітанне, мае родныя,*
*Вас немагчыма сэрцам не кахаць...*
*Зноў дыхаю духмяным, свежым водарам*
*і радуюся волі і святлу,*
*і сонца заіскрылася над возерам —*
*бо, як і ўчора, сёння быць цяплу...*



*Фота Кастуся Дробава*

*Дэбют*

## Ганна ПРЫЁМКА

**Нарадзілася ў вёсцы Звярынічы Лагойскага раёна Мінскай вобласці. З адзнакай скончыла ПТВ. Працавала сястрой-гаспадыняй у бальніцы. Цяпер пенсіянерка. У «ЛіМе» друкуецца ўпершыню.**



# Бацька

Уладзік з сябрамі бег дадому. Закончыўся навучальны год. Наперадзе экзамены, а там — самастойнае жыццё. Хваля радасці ўздымалася ў грудзях, сэрца замірала ў чаканні чагосьці новага.

Уладзік жыў з маці ў невялікім доме. Каля ганка цвіў шыкоўны куст бэзу, ад водару якога казытала ў носе.

Сёння ў маці дзень нараджэння. Да святочнага стала яна гатуе варэнікі з вішняй.

Уладзік ніколі не пытаўся ў маці пра свайго бацьку. Вечарам, калі яны селі да стала вячэраць, маці ўздыхнула і прамовіла: «У гэты дзень твой бацька заўсёды дарыў мне ландышы, мае самыя любімыя кветкі». Хлопец ціхенька папрасіў: «Мама, раскажы мне пра яго. Хлопцы здзекуюцца, кажуць, што мой бацька памёр, бо моцна піў».

Слова «бацька» Уладзіку гаварыць было цяжка.

Маці паглядзела на сына, яшчэ раз уздыхнула і пачала расповед:

— Было гэта тады, сынок, калі вяселлі ладзілі пад гармонік. Юрась пасля гулянак вечарам праводзіў мяне дадому. А які раўнівы быў... Я лепш за ўсіх адбівала «полечку» і спявала прыпеўкі. Юрась стаяў нібы пакрыўджаны.

Хлопцы заўсёды запрашалі мяне танцаваць. А пасля вечарыны Юрась абавязкова ўчыняў бойку з тымі, хто запрашаў мяне на танец. Такія бойкі мяне пужалі. Я вельмі кахала Юрася, але хавала свае пачуцці. Так прайшоў год. А аднойчы ён прыйшоў да свайго сябра Петруся і сказаў яму: «Не любіць яна мяне... З'еду!» І з'ехаў. Пісаў пасля толькі Петрусю, але забараніў даваць іншым свой адрас.

Ён, сынок, аднойчы вернецца, і ты ўбачыш, што твой бацька самы разумны, добры і прыгожы чалавек ва ўсім свеце...

У хуткім часе Уладзіслава прызвалі ў армію. Юнака даймалі дзіўныя сны: нібы яны з маці збіраюць у лесе чарніцы... Хлопец азіраецца, а маці нідзе няма. Толькі глыбокая яма, а ў ёй — старая мядзведзіца, якая жалобна раве... Хлопца штосьці непакоіла, хаця маці заўсёды пісала ў лістах, што ў яе ўсё добра.

Служба скончылася. У падарунак Уладзіслаў купіў маці завушніцы і пярсцёначак з каменьчыкамі бурачковага колеру. Але маці так іх ні разу і не надзела: цяжка захварэла, а восенню памерла.

Хаваць яе прыйшлі амаль усе жыхары вёскі. Быў сярод аднавяскоўцаў і дзядзька Пятрусь. Падышоў ён да хлопца, паклаў руку на плячо і прамовіў:

— Уладзік, твой бацька даслаў ліст: кліча цябе да сябе ў Сібір. Не крыўдуй. Ён хацеў прыехаць да вас, але было надта сорамна перад тваёй маці. У цябе, хлопча, бацька адзін, паважай яго такім, які ёсць.

...Дзень быў сонечны. У адной руцэ Уладзіслаў трымаў вялізную сумку, а другой замыкаў хату... Зайшоў да суседкі, бабы Насты, папрасіў прыглядаць за матчынай магілкай і пашыбаваў у бок чыгункі. Пад нагамі шамацела жоўта-чырвонае лісце, раскіданае ветрам...

# Баба Поля

Яна амаль не хадзіла: вельмі балелі ногі. Калі было цёпла, брала дзве палкі і клыпала на лаўку, якую для яе змайстраваў сусед Пятрусь.

Пятрусь быў добры і паслухмяны, але ў чарку зазірнуць любіў. Сусед дапамагаў старой: латаў страху, адрамантаваў ганак, касіў на двары і ў садзе.

Вось і сёння падышоў да старой і кажа:

— Пайду, бабуля, падкашу ў садзе.

Баба Поля толькі кіўнула у адказ. А сад у старой быў самы вялікі ў вёсцы, галіны яблынь гнуліся пад цяжарам чырванабокіх пладоў.

Аднавяскоўцы, праходзячы каля дома бабы Полі, прыпыняліся і цікавіліся:

— Як здароўе, бабулечка? Як жыццё?

А жанчына адказвала:

— Усё добра... Жыву... Вам таксама не хварэць.

Суседзі шкадавалі старую, а баба Поля запрашала іх у сад па яблыкі.

«Жых-жых», — спявала каса, і старая прымружыла вочы, адчуўшы водар скошанай травы.

Некалі баба Поля была прыгожай дзяўчынай з гнуткім станам, пышнымі валасамі, вялізнымі васількловымі вачыма. Да яе сваталася шмат хлопцаў, але Поля выйшла замуж за невысокага суседа Антося.

Жылі яны душа ў душу. Антось, спраўны гаспадар, шкадаваў і кахаў жонку, але ўслых пра гэта ніколі не гаварыў. Усю гаспадарку вёў сам. Поля нарадзіла двух дзетак — Алеся і Марысю. Марыла, што век пражыве з Антосем, але муж моцна захварэў і памёр. Загаравала Паліна, але ж трэба жыць, дзетак гадаваць.

Алесь і Марыся выраслі і раз'ехаліся. А Поля за справамі і не заўважыла, як падабралася старасць. Дзеці наведвалі старую ўсё радзей і радзей. Калі ж прыязджалі, старая ад радасці і хвалявання не ведала, дзе іх пасадзіць, чым пачаставаць. Збіраючы дзяцей у дарогу, крадком выцірала слёзы, даставала з невялікага куфэрачка вузельчык з грашыма і дрыготкім голасам казала:

— Бярыце, дзеткі, усе грошы бярыце. У мяне куры, агарод... Пражыву.

Бачачы такое, Пятрусь, калі быў на падпітку, крычаў:

— Ды я на тваіх дзетак, баба Поля, у суд падам!

Поля пачынала плакаць, і сусед прыціхаў...

— Усё, бабуля, скасіў, — падышоў да старой Пятрусь. — Дапамагчы ў хату зайсці? А то пасля абеду дождж пойдзе.

— Дзякуй табе, Петрык, я яшчэ пасяджу.

Хутка шэрыя хмары зацягнулі неба, падняўся вецер. Жонка Петруся зірнула ў акно і паклікала мужа:

— Пятро, ідзі старую завядзі ў хату, сырадою аднясі.

Калі Пятро падышоў да бабы Полі, тая сядзела, прыхінуўшыся да плота, нібы спала.

Шэрая хмара заплакала халодным восеньскім дажджом...

# Скрадзенае каханне

Віктар вяртаўся з працы праз парк. Увесь дзень — на заводзе, і таму хацелася надыхацца салодкім вясновым паветрам. Калі ішоў, заўсёды бачыў прыгожую дзяўчыну, якая сядзела на лаўцы пад разгалістым клёнам. А сёння яна ішла насустрач, мацаючы дарогу палачкай. Віктар залюбаваўся яе стройнай і лёгкай постаццю. Густыя чорныя валасы хвалямі ляжалі на плячах.

Віктар перагарадзіў дзяўчыне дарогу.

— Хто вы? Што вам трэба? — спыталася яна.

Віктар узяў дзяўчыну пад локаць і прашаптаў на вуха:

— Толькі ваша імя, красуня.

— Эля, — адказала з усмешкай дзяўчына.

— А давайце, Эля, будзем сустракацца на гэтым месцы кожны дзень.

Дзяўчына кіўнула.

Віктар і Эля павольна пайшлі па парку. Дзяўчына распавяла, што жыве адна, бацькі працуюць за мяжой, а ў горадзе толькі бацькава сястра, якая і дапамагае Элі. Сёе-тое дзяўчына робіць сама.

Штовечар Эля чакала Віктара на лаўцы ў парку, нават пад дажджом. Яна чытала Віктару свае вершы. Пра яго жыццё не распытвала, толькі радавалася: нарэшце да яе прыйшло каханне — шчырае, светлае. Цяпер Эля зразумела: людзі, якія кахаюць, — шчаслівыя.

...Віктар прыйшоў дадому. З кухні даносіліся прыемныя пахі. Жонка Вольга, усміхаючыся, пацалавала яго і паклікала да стала.

— Не змаглі мы з дачушкай адпачываць без цябе, засумавалі, — сказала ласкава.



Фота Кастуся Дробава

З таго дня Віктар ездзіў дадому на трамваі. Аднойчы павярнуў-такі галаву ў бок парку. На лаўцы пад клёнам сядзела Эля...

# Сцерпіцца-злюбіцца

Хварэю на цукровы дыябет. Ляжала ў бальніцы. У палаце было нас пяць жанчын. Да маёй суседкі ўвесь час хадзілі наведвальнікі, без перапынку званіў мабільны. Я спытала: «А хто ж так клапоціцца, шчаслівая?» — «Мае сынкі, нявесткі. Хочаце, раскажу пра сваё шчасце?»

Была ранняя вясна. Ноччу зямлю яшчэ падмарожвала, а ўдзень стаялі лужыны з граззю.

Таццяна вярталася да бацькоў. З мужам Сяргеем развялася: аказаўся выпівохам і гулёнам. У адной руцэ несла цяжкі чамадан, а другой цягнула за сабой сыночка Максімку. Малы так і наравіў вырвацца і патаптаць лужыну з граззю. Не заўважыла, як каля іх прытармазіла прыгожая «вольва». З машыны выйшаў мужчына, паўнаваты, з залысінамі, але прывабны. «Куды ідзяце? Давайце падвязу», — прапанаваў ён. Таццяна пачырванела: «У Забалацце, да Міхаіла Давідовіча». Мужчына адчыніў дзверы машыны і запрасіў: «Сядайце, я якраз туды і еду. Міхаіл Рыгоравіч — лепшы брыгадзір. А мяне завуць Андрэем, працую дырэктарам саўгаса».

Па дарозе Таня распавяла пра сябе. Неўзабаве пад'ехалі да хаты Таніных бацькоў. На ганак з лямантам выбегла матуля, але, заўважыўшы Андрэя Іванавіча, разгублена сціхла. Пацалавала дачку і ўнука, запрасіла дырэктара ў хату і замітусілася каля стала. «Не трэба турбавацца. Я вып'ю малака», — сказаў Андрэй, а сам не зводзіў вачэй з высокай, стройнай прыгажуні Таццяны, чорнавалосай, з ярка-васількловымі вачыма. Яна чырванела ад пагляду Андрэя.

З таго дня дырэктар стаў частым госцем у хаце Давідовічаў. Неяк спытаў Таццяну: «Чым думаеце займацца? А то паехалі ў цэнтр. Вы ж закончылі педвучылішча, а там праца знойдзецца».

Маці была на сёмым небе ад шчасця. «А дзе ж яны жыць будуць?» — ціха спытала яна ў Андрэя. — «А хоць і ў мяне. Дом вялікі, жыву я з матуляй».

Ад такой прапановы ў Таццяны застукала ў грудзях, стук сэрца аддаўся ў скронях, падлога нібы качнулася пад нагамі, і яна выбегла на двор.

Андрэй паехаў. Маці дакарала дачку: «Ой, якое шчасце выпала табе, яго ж усе паважаюць. А калі не кахаеш, дачушка, дык сцерпіцца-злюбіцца».

Заставацца ў родным доме Таццяне не хацелася: бачыла, як маці перажывае з-за яе няўдалага замужжа. Ды і бацька ходзіць маркотны. Думала, прыкідвала...

Андрэй прывёз Таню ў свой дом, калі сады патаналі ў квецені. Сказаў: «Прыглядзіся, Танюша. Калі што не так будзе — адвязу цябе да бацькоў».

Так пачалося новае жыццё Таццяны. Андрэй агарнуў яе ўвагай, цеплынёй. Максімка пайшоў у садок. Таццяна была сапраўднай гаспадыняй: пашыла новыя фіранкі, вымыла шыбы, расставіла хатнія кветкі на падаконніку, вычысціла кожны куточак у доме. Клапацілася і пра Андрэеву маці. І не заўважыла, як у сэрца пастукалася каханне. Андрэй, як толькі выпадала вольная хвілінка, спяшаўся да яе. Вечарамі сядзелі на лаўцы, Андрэй прытуляў Таццяну да сябе і шаптаў: «Я цябе нікому не аддам. Кахаць буду да скону». Яны любаваліся вяргінямі, якія — жоўта-лімонныя, барвова-чырвоныя — выраслі вышынёй з чалавека. Усё было як у казцы, але...

Андрэй вяртаўся з горада, калі ў яго аўтамабіль урэзаўся п'яны ліхач. Загінуў дырэктар саўгаса на месцы аварыі.

Ля труны Таццяна сядзела нерухома, не плакала — слёз не хапала. Вачэй не зводзіла з любага твару. А пад сэрцам жанчыны ўжо біліся два маленькія сардэчкі.

Таццяна засталася жыць у доме Андрэя, даглядала яго маці. І не заўважыла, як выраслі тры сыночкі, ажаніліся, разляцеліся з роднага гнязда, але пра маці не забываліся.

Людзі, ідучы каля дома Таццяны, абавязкова прыпыняюцца: «Якія прыгожыя вяргіні ў гаспадыні!..»

# Вершы на арбіце



Фота Святланы Маславай

### «МОЙ ЛІПЕНЬ»

Так сталася, што ў Васіля Зуёнка два дні нараджэння — афіцыйны і сапраўдны. Афіцыйнай датай, пазначанай у энцыклапедыях і падручніках, лічыцца 3 чэрвеня 1935 года. Аднак на самай справе ў сям'і сялян Васіля Захаравіча і Куліны Канстанцінаўны з вёскі Мачулішча Халапеніцкага (па тым часе, цяпер — Крупскага) раёна Мінскай вобласці сын з'явіўся месяцам пазней — 3 ліпеня. «Я нарадзіўся пад шчаслівым знакам — / Не ўсім так удаецца на зямлі! — / Калі агні па крузе Задыяка / Купальскімі планетамі плылі», — сведчыць паэт у вершы «Мой ліпень». Іншая дата — вынік звычайнай для пасляваенных год блытаніны з аднаўленнем дакументаў, знішчаных у час нямецкай акупацыі.

### ПЕРШЫ «ЗБОР ТВОРАЎ»

Яшчэ ў вучнёўскія гады В. Зуёнак пачаў займацца вершаскладаннем — рыфмаваў дзіцячыя ўражанні, натхняючыся звычайнымі рэчамі і з'явамі, навакольнымі краявідамі. Відаць, «практыка» была плённай, бо да заканчэння школы з'явіўся цэлы «збор твораў», ажно два сшыткі вершаў. Некаторыя з іх былі дасланы ў газету «Літаратура і мастацтва», адкуль прыйшоў ліст з парадай «шмат павучыцца». Нібы выконваючы рэкамендацыю некага з тагачасных лімаўцаў, бацька будучага паэта выправіў сына ў Барысаўскае педагагічнае вучылішча, пасля заканчэння якога В. Зуёнка як выдатніка без уступных экзаменаў прынялі на філалагічны факультэт БДУ. А першы «збор твораў» недзе згубіўся, так і не апублікаваны...

### КАПІТАН ДАЛЬНЯГА ПЛАВАННЯ

Канкурэнцыю аддзяленню журналістыкі філфака БДУ, якое В. Зуёнак скончыў у 1959 годзе, магла скласці іншая навучальная ўстанова. У школьныя гады пад уплывам кніжнай рамантыкі юнак уяўляў сябе капітанам дальняга плавання. Аднак «зямное прыцягненне» аказалася мацнейшым за марскую мару. Думаецца, насычанае прафесійнае жыццё В. Зуёнка — як пісьменніка, журналіста, перакладчыка, даследчыка літаратуры, грамадскага дзеяча — не дало яму падстаў пашкадаваць пра свой выбар.

### СТУДЭНЦКІ ІНТЭРНАТ

Студэнтам В. Зуёнак і жыў у інтэрнаце. Гэта быў асяродак творчасці, нястомных пошукаў і шчаслівых знаходак. Спачатку студэнт Зуёнак і яго (пройдзе не так шмат часу — знакамітыя) равеснікі асталяваліся на Нямізе, 21. У вершы 2001 года «Мы з Нямігі» паэт з удзячнасцю і настальгіяй успамінае тую пару: «Інтэрнат быў настаўнік строгі — / Індульгенцый не выдаваў, / Скараспела рэдакцый парогі / Разам з намі не абіваў. / І вучыў, і даваў заруку, / І салодкі ялей не ліў. / І што выбліснe раптам удруку — / Ахалоджваў больш, чым хваліў. / Не згінацца і не схіляцца, / Не выпрошваць лёгкіх дарог, — / На Нямізе крылы юнацтва / Разгарнуць інтэрнат нам памог».

З не меншай прыязнасцю гаворыць В. Зуёнак і пра жыццё на вуліцы Бабруйскай, дзе ў другой палове 1950-х праходзіла студэнцкае юнацтва сённяшніх класікаў: «Калі на асфальце сена касіў / Стральцоў з цыгарэткаю інтэлігенцкай, / А сам палачанін — таму й не прасіў / Бураўкін па-княску сабе індульгенцый; / Калі дарога праз лес вяла / Сачанку крокам мініятуры, / Калі Сіпакоў зразумеў, што з сяла / Шлях самы кароткі ў літаратуру; / Калі над старонкай пакутна карпеў / І стыль глянцаваў і ваксіў Адамчык...— / Тады беларускім гімнам той спеў / І грымнуў! — раз-два! — і ў дамкі: / Ці верш, ці балада, ці прозы сувой, — / Размах, шырыня і веліч!.. / І хоць не з Бабруйскай, а ўдоўж усвой, — / То быў — і ёсць! — КАРАТКЕВІЧ!..»

### «ПЕРАД НАМІ — ПАЭТ...»

Менавіта У. Караткевіч стаў адным з тых, хто адразу пасля з'яўлення першага лірычнага зборніка «Крэсіва» разгледзеў у В. Зуёнку Паэта. У рэцэнзіі ён у характэрнай рамантычнай манеры адзначыў: «Перад намі паэт. Паэт адметны, свежы, паэт са сваім зрокам, са сваім адкрытым гукам жыцця слыхам і адкрытым болю і любві сэрцам». Значна пазней у адным з вершаў В. Зуёнак раскажа пра іх узаемныя «прароцтвы»: «Сам Уладзімір Караткевіч / Хвалу ў крэдыт узносіў мне, / А я смяяўся: / «Гэта веліч, / Хутчэй, цябе не абміне». / Яго мой верш пра лес расчуліў. / А я — як у ваду глядзеў: / Пра Караткевіча пачулі / І ў нашай хаце, і ў людзей». Як паказаў час, узаемныя прадбачанні абодвух мастакоў слова спраўдзіліся. А тады, у 1966 годзе, для В. Зуёнка гэта быў толькі пачатак літаратурнага шляху...

### КАСМІЧНЫ РЭПАРТАЖ

На гэтай доўгай — адлегласцю ў 50 год — дарозе было шмат усяго, у тым ліку і незвычайнага. Ніхто з беларускіх аўтараў ды, бадай, мала хто з пісьменнікаў увогуле можа пахваліцца тым, што яго вершы гучалі на арбітальнай станцы падчас сеанса радыёсувязі. І гэта «засведчылі ўсе касмічныя рэпартажы, якія ў той час перадаваліся па радыё, тэлебачанні, друкаваліся ў газетах».

Незадоўга да палёту Касманаўт Уладзімір Кавалёнак завітаў у родную вёску Белае на Крупшчыне, дзе ў кнігарні ўбачыў зборнік са знаёмай і роднай яму назвай — «Нача» (гэта рачулка на малой радзіме абодвух — касманаўта і паэта). У аўтара і прозвішча сугучнае: Кавалёнак — Зуёнак! Потым «Нача» была дастаўлена касмічнай поштай на арбітальную станцыю «Саюз-6». Вось так у ліку тых вельмі нямногіх зямных рэчаў, якія можна было захапіць з сабою на арбіту, шчаслівым чынам аказалася зуёнкаўская «Нача».

### «АЗІРНУЎШЫСЯ, НЕ СКАМЯНЕЦЬ...»

Адна з галоўных асабістых і прафесійных якасцей В. Зуёнка — патрабавальнасць да сябе, адказнасць за кожнае напісанае слова. Пэўна, таму ў параўнанні з яго аднакашнікамі ён даволі доўга ішоў да першага зборніка: паэтычны дэбют у «Чырвонай змене» ў 1954 годзе ад першай кнігі аддзяляе больш чым дзесяцігоддзе. Затое не было ў паэта і нагоды для «пакаяння» за недасканалыя або кан'юнктурныя тэксты — пісаў, нібы адразу рыхтуючы выбранае. «Ніколі не было ў мяне (калі не лічыць чыста журналісцкіх, газетных пісанняў) ці, дакладней, нада мною, над маёю душою гнёту камусьці дагадзіць паэзіяй, асабліва ў ідэалагічным плане, — ці то дзяржаве, ці то сістэме, ці, зрэшты, чытацкай публіцы, — прызнаецца В. Зуёнак, — я проста гаварыў дзеля сябе, каб выявіць і замацаваць у слове свае пачуцці, сваё светаразуменне, сваю радасць ці засмучэнне жыццём, яго праявамі». Менавіта таму, акідваючы позіркам усё створанае да гэтага часу, паэт мае права сказаць: «Азірнуўшыся, не скамянею: / Сам пажаў, што — сам жа — пасеяў. / І ні ўдачы сваёй, ні віны / Не ўступлю і за тры цаны. / І ніхто: ні Бог і ні людзі — / Так, як сам, мяне не асудзіць...»

### ТАЛЕНАВІТЫ ВА ЎСІМ

В. Зуёнак — грамадскі дзеяч, перакладчык, даследчык літаратуры, журналіст, пісьменнік... Але якой бы ні была яго праца, яна нязменна звязана са словам, з якім у В. Зуёнка асаблівыя адносіны: «Я знаю моц і славу слова, / Ды ўжо не бог яно, відаць, — / Нам Госпад даў яго асновы, / А мы іх мусім разгадаць». Разгадваў таямніцы слова сённяшні юбіляр, працуючы ў літаратурна-мастацкіх выданнях — намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» (1966 — 1972), галоўным рэдактарам часопісаў «Бярозка» (1972 — 1978) і «Маладосць» (1978 — 1982). З 1982 года В. Зуёнак выконваў абавязкі сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі, а пасля ўзначаліў творчую суполку (1990 — 1998). Акрамя таго, хапала часу і на занятк навукаю: у 1973 годзе ён абараніў кандыдацкую дысертацыю ў галіне філалогіі. Выдатнае адчуванне слова аказалася зусім не лішнім і ў перакладчыцкай працы. Дзякуючы зуёнкаўскім перакладам лепшыя ўзоры рускай, польскай, украінскай, балгарскай, латышскай, літоўскай ды іншых літаратур сталі даступнымі і зразумелымі беларусам. А на сустрэчах з чытачамі В. Зуёнак прыемна здзіўляе ўменнем доўгі час трымаць увагу аўдыторыі, скарае шчырасцю, адкрытасцю і нязмушанасцю.

### ВЯРТАННЕ ДА ПРОЗЫ

На мяжы тысячагоддзяў крытыкі загаварылі пра «новага» В. Зуёнка — аўтара празаічных элегій. У 2009 годзе элегіі, разам з літаратурна-лінгвістычнымі эсэ, эцюдамі, падарожнымі нататкамі, былі сабраны пад адной вокладкай і склалі кнігу «Паміж небам і зямлёй». Аднак для пісьменніка гэта стала не адкрыццём новага, а, хутчэй, вяртаннем да некалі пакінутага. Празаічныя творы былі «абнародаваны» напрыканцы дзевяностых, пісаць жа іх аўтар пачаў яшчэ ў пяцідзясятыя. Для В. Зуёнка проза была тады своеасаблівымі ўцёкамі ад нарматыўнасці і апісальнасці. «Практыкавацца ў прозе», — зазначае пісьменнік, — я пачаў быў даволі-такі даўно — гадоў сорак з гакам таму... А падштурхнулі мяне да гэтага кроку тагачасныя патрабаванні да вершаванай «прадукцыі»: ніяк не мог я патрапіць у тон, якога вымагалі газетныя кансультанты... Ось тады і намерыўся «закапаць свае таленты» і паставіць крыж над магілаю рыфмаў...»

### МАЙСТАР СЛОВА

Але перадусім В. Зуёнак — Паэт, які пастаянна і вельмі плённа піша. На жаль, выдавецкі бок пісьменніцкай дзейнасці не паспявае за творчым: у 2013 годзе ў серыі «Беларуская паэзія XX стагоддзя» пабачыла свет кніга «Азірнуўшыся, не скамянець...», да публікацыі падрыхтаваны два змястоўныя тамы лірыкі найноўшага часу — зборнік «Вертыкальныя рэкі святла», куды ўвайшлі вершы 1993 — 2006 гадоў, і кніга «Шляхам Белага каменя» з творамі 2007 — 2012-х.

Некалі яшчэ малады і недасведчаны аўтар, звяртаючыся да паэзіі, заўважыў: «З табою не спраўлялі мы заручын, / Сватоў не засылаў я. / Ты сама / Прыйшла аднойчы песняю нягучнай... / І з хвілі той спакою мне няма». Ужо сталы творца жартоўна скардзіцца гэтаму ж адрасату: «Такі ўжо ў яе характар, — / А я — пра яе, пра яе: / Гэта паэзія раптам / Завалу гадоў узарве. / І што з ёй рабіць? «Глуповатой» / Сам Пушкін яе ахрысціў... / А мне ўсё ж восьмы дзясятак... — / Паэзія, адпусці...»

Аднак яна, на шчасце, не адпускае: з-пад пяра В. Зуёнка выходзяць новыя вершы. У яго лірыцы — спалучэнне глабальнага і асабістага, гармонія зместу і формы, невытлумачальная сіла эмацыянальнага ўздзеяння, што вызначаюць сапраўдную творчасць і дазваляюць называць аўтара Майстрам слова.

**Наталля ЗАЯЦ**

*Літабсягі*

# Слова над Сожам

Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі наладзіла абласны моладзевы конкурс чытальнікаў, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Праходзіла спаборніцтва пры падтрымцы ўпраўлення адукацыі аблвыканкама на базе абласнога Дома прафсаюзаў.

Арганізатары конкурсу, які сёлета праходзіў у сёмы раз пад эгідай абласной пісьменніцкай арганізацыі, школьнікам вобласці далі магчымасць падзяліцца з тым, што асабліва кранула ў творах пісьменнікаў-землякоў. На працягу чатырох месяцаў на святах беларускай прозы школьнага, раённага і абласнога ўзроўняў ёю скарысталіся больш як 800 вучняў сярэдніх і старэйшых класаў школ і гімназій. На абласны этап у горад над Сожам прыехалі 22 пераможцы раёнаў.

Юныя чытальнікі стварылі маштабны празаічны спектакль па матывах твораў класікаў і сучасных празаікаў-гамяльчан. На сцэне абласнога Дома прафсаюзаў «ажывалі» героі мастацкіх твораў Барыса Сачанкі, Івана Мележа, Івана Шамякіна, Івана Сяркова, Уладзіміра Гаўрыловіча, Міхася Даніленкі ды іншых.

Журы на чале з актрысай тэатра і кіно Наталляй Задорнай складана было вызначыць лепшых. Але найбольш уразілі Аляксандр Усхопаў з Рэчыцы, Анастасія Вяркеенка з Петрыкава, Піліп Завадскі са Светлагорска, Дар'я Марчык з Гомеля, Марыя Рысіна з Буда-Кашалёва і Марыя Новікава з г. п. Карма, якія і сталі лаўрэатамі. А вось Гран-пры конкурсу аднагалосна прысуджана вучню СШ № 12 г. Гомеля Мікіту Новікаву.

Старшыня аргкамітэта конкурсу, старшыня абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч уручыў удзельнікам дыпломы, граматы, падзякі абласнога аддзялення, кнігі пісьменнікаў Гомельшчыны, зборы твораў Івана Мележа ды Івана Шамякіна.

**Мікалай ІГНАТОВІЧ**

*Маладзічок*

# У дзяцінстве была вайна

Серыя «Дзеці вайны», што выходзіць у выдавецтве «Чатыры чвэрці» дзякуючы Ліліі Анцух, папоўнілася кнігай Казіміра Камейшы «Курганны звон». Выданне адрасавана дзецям сярэдняга школьнага ўзросту, але будзе цікавае і меншым чытачам. Пры ўмове, калі хлопчыкаў і дзяўчынак пазнаёмяць з кнігай бацькі, настаўнікі, выхавацелі дзіцячых садоў. Тым больш што творы К. Камейшы можна выкарыстаць і ў пазакласным чытанні, пры падрыхтоўцы ранішнікаў, іншых мерапрыемстваў, прысвечаных 70-годдзю Вялікай Перамогі. Тэма барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі займае ў кнізе важнае месца.




І гэтая праблематыка ў творчасці К. Камейшы — адна з асноўных. Пра тое, як вайна ўвайшла ў яго ны лёс, К. Камейша пераканаўча і адметна, па-свойму гаворыць у адным з лепшых вершаў «Сорак трэці». У гэтым годзе аўтар нарадзіўся. Аднак лічба адметная для яго і па іншай прычыне: «Я прыметам не надта веру, // Але ж іх прыдумаў сам народ. // Боты сорак трэцяга памеру // Выдаў мне мой сорак трэці год». Тым самым лічба «43» набывае сімвалічнае гучанне: паядноўвае і дзень нараджэння аўтара, і вайну, якую паэт заспеў хлапчуком («І глядзеў мне ў вочы сорак трэці // Самы сорак страшны ў свеце год»).

Прыпамінак К. Камейшам Вялікай Айчыннай вайны — гэта адначасова і вяртанне з вайны, і вяртанне ў яе, без якога ніяк не абысціся. Бо памяць пра вайну назаўсёды звязваецца з дзяцінствам: «Нам з першым словам «мама» // «Вайна» — было так цяжка прамаўляць». Гэта ўжо з верша «Пасля прагляду кінаэпапеі «Вялікая Айчынная».

Дый у іншых творах — вершах, баладах, паэмах — зближаюцца між сабой розныя перыяды, а даўняе — страшнае, пакутнае, балючае — урываецца ў дзень сённяшні і гучыць не толькі курганным звонам... Сам час нібыта націскае на нябачны метраном памяці. Таму для лірычнага героя і снег горка пахне вайною (верш «Снег пахне вайною»).

Адкрываецца ж кніга вершам «Вечны агонь». Пра вечны агонь як сімвал народнага подзвігу ў гады Вялікай Айчыннай вайны і разам з тым як сімвал памяці К. Камейша сказаў вельмі кранальна. Гэта твой боль, твой гонар, твая памяць:

*Прызнаюся, я вечнасць даганяў,*
*Ды строгі абеліск мяне суняў.*

*Паплыў угору доўгі спіс імён.*
*На абеліску — цёзка з-пад Расон.*

*І раптам — кропка...*
*Чыйсьці крык і боль...*
*У вечнасць тую не пускаюць больш.*

*Не, вечнасці я ўжо не даганю,*
*Ды памужнею тут, каля Агню.*

*Яшчэ мацней адчую прагу жыць.*
*І той Агонь па жылах пабяжыць.*

**Пятро УРБАНОВІЧ**

# Дзівосы падводныя

*«Так хочацца верыць у тое, што калі-небудзь мы навучымся жыць у згодзе з акаляючым нас светам»*

Дапытлівым даследчыкам жывога свету і аматарам казачных вадзяных істот прысвячаецца кніга Наталлі Бучынскай «Атракцыёны для вадзянікоў», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Выданне пазнавальнае і фантастычнае адначасова, — забаўляе і вучыць маленькіх чытачоў.

Тры гісторыі, дзе суіснуюць праўда і цуды, прысвечаны рамантычна-ўзнёслым нерэідам, сутыкненню бацькоў і дзяцей з кагорты вадзянікоў, барацьбе працавітых babроў з непаразуменнем сярод людзей.

Казка «Атракцыёны для вадзянікоў» — ледзь не тургенеўскі канфлікт. Моладзь упэўненая ў неабходнасці змен — але старэйшае пакаленне іх не заўсёды прымае. «Мы тысячы год абыходзімся без прагрэсу — і нічога — жывы!» — кажа найстарэйшы жыхар вадаёма, дзе адбываецца дзеянне, рачок-лекар Лімнакалянус.

Жывуць сабе стары Вадзянік спакойна, уладары у возеры, даглядаў берагі, «каб чаротам дужа не зарасталі, чысціў-выгладжваў дно, аздабляючы рознакаляровай глінай, гадаваў малькоў», — распавядае аўтар. Ды раптам з'явіўся юны і нахабны, але апантаны крэатыўнымі ідэямі Вадзянічок. Чаго ён толькі не наварочаў! Вынікі свавольства, тым не менш, ператварыліся ў цудоўную ідэю. Аўтар заклікае чытачоў вучыцца ў самай безвыходнай сітуацыі бачыць пазітыўныя моманты, а не панікаваць і злавацца.




Што адбылося далей? Прагрэс, нарэшце, прыйшоў у возера. «Нават самых незадаволеных ахапіў агульны запал, самыя вялікія лайдакі зацікавіліся і прапанавалі сваю дапамогу». Так звычайнае вадзяное дно стала паркам атракцыёнаў, не горшым за Дрымлэнд — з горкамі, лабірынтамі і басейнамі. Але галоўная думка — новаўвядзенне дапамагло раскрыцца талентам водных жыхароў. Нават моладзь больш не думала, як збегчы з радзімы ў Вялікую Водную Прастору. Гэтая казка вучыць бацькоў і дзяцей паразумецца, натхняе не ўтойваць свае мары, а смела іх рэалізоўваць.

Другая казка «Як бабры прытулак шукалі» распавядае пра клопаты бабровай сям'і на фоне агульных праблем усіх грызуноў планеты — з-за несправядлівых людскіх ганенняў. Ізноў канфлікт, толькі іншага «гатунку». Аўтар вучыць уважліва ставіцца да ўсіх жывых істот. Які сэнс калаціць тую ж котку, калі яна падрапала сцяну? Так, мы можам аналізаваць, а жывёлы падуладныя інстынктам. Але як важна патлумачыць дзіцяці як мага раней, што людзі адказныя за тых, каго прыручылі.

Месца дзеяння — Цілеўскае возера — насамрэч існуе на Беларусі. Дарэчы, аўтарам цікава раскрыты персанажы, асабліва бабрыны бацька Руф, які выступае ў вобразе добрага знаўцы гісторыі, шануе свой род, а Чырвоную кнігу Беларусі ахоўвае як сямейны скарб.

Фінал у казкі самы звычайны, без нечаканасцей. Дапаўняе яго гістарычная лекцыя бабра Руфа, рэцэпты ежы з бярозавага паленца бабрыхі Руфіны і энцыклапедычныя звесткі пра грызуноў. Творы наогул нагадваюць прыпавесці. У іх няма дынамічнага прыгодніцкага сюжэта, затое шмат педагагічных прыёмаў.

Ілюстрацыі да кнігі зрабіў мастак Андрэй Пазняк. Яны добра адпавядаюць тэксту: паветрана-водныя штрыхі, крыху размытыя, пананне сініх і блакітных колераў. Аднак малюнкі месцамі крыху змрочныя і не зусім казачныя. Улічваючы жыццесцвярджальныя матывы тэкстаў, чакаеш пабачыць больш пазітыўныя ілюстрацыі. Аўтар шчыра верыць у магчымасць незвычайнага ў паўсядзённым — і дзеліцца з чытачом надзеяй на цуд.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Маленькім паліглотам

Чым раней, тым лепш — прынцып, які выдатна ўпісваецца ў практыку навучання дзяцей англійскай мове. А дапаможа ў гэтым кніга вершаў Алены Церашковай «Англійская мова. Слова за словам», якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Выданне складаецца з невялікіх вершаў на беларускай мове з адным англійскім словам у канцы і яго транскрыпцыяй. Атрымліваюцца цікавыя спалучэнні кшталту: «Лялькy кінулі на дол. Горка плача лялька — DOLL [ДОЛ]. Кідаеш пясок? Спыняй! Запарушыш вока — EYE [АЙ]. Гэй, Адась! Да пчол не лезь, пакусаюць тварык — FACE [ФЭЙС]».

Удалае мастацкае і дызайнерскае ўвасабленне дзякуючы Вользе Раманюк і Анастасіі Капульцэвіч робяць выданне прыкметным сярод аналагічных дапаможнікаў. Кніга поўная вясёлых вобразаў — слоік з сочывам, які так і просіцца на сняданне, смешны слон на дрэве, лялечная каралева з апельсінавымі долькамі, гарэзлівая малпа, неабыякавая да маннай кашы, і моркаўка, якая п'е гарбату.

Дзеці любяць вучыцца праз гульню. І гэтая кніга — выдатная магчымасць прыдумаць мноства забаў для дзіцяці, далучаючы яго да англійскай мовы, — альтэрнатыва папулярным карткам і кубікам. Па малюнках пасля прачытання тэкстаў можна арганізоўваць віктарыны, прыдумляць казкі (зразумела ж, на англійскай мове), прапанаваць малому маляваць іншыя прадметы, якія ён бачыць навокал, і нават пісаць свае вершыкі. Вядома, адначасова трэба слухаць песні на англійскай мове, паказваць фільмы. Але галоўнае — зацікавіць! Выданне Алены Церашковай для гэтага прыдатнае ідэальна. Другое пытанне: наколькі кніга карысная і якія вынікі дае?

Усе словы, дадзеныя ў зборніку, маленькі чытач запомніць на сто працэнтаў — практыка вывучэння мовы праз рыфмы вельмі дзейсная. Але ці патрэбна яму ведаць, напрыклад, што такое x-ray (рэнтген) ці nut (гайка)? Папаўненне слоўнікавага запасу любой мовы, думаецца, варта пачынаць з самых распаўсюджаных слоў. У Алены Церашковай яны ёсць, але не ўсе. Прыкладам, дзіця часта сутыкаецца з такімі «з'явамі», як apple (яблык), jam (сочыва), ball (мяч), carrot (морква), pencil (аловак), tree (дрэва), water (вада). Але чамусьці аўтарам згадваецца, напрыклад, экзатычная lane (лань) і ні слова пра больш знаёмых: котку, сабаку...

У другой частцы кнігі «Мая вялікая сям'я» ўсё больш гарманічна: тут пералічваюцца члены сям'і ад дзядулі з бабуляй да братоў і сястрычак. У раздзеле «Ёсць прыкметы ў прадметаў» аўтар звяртае ўвагу на прыметнікі, апісвае іх праз асацыяцыі ў непарыўнай сувязі з назоўнікамі, што вельмі добра для запамінання. Напрыклад: «Слон не можа жыць на дрэве. Ён цяжкі занадта — HEAVY. А вавёрачка малая вельмі лёгенькая — LIGHT» ці «Лясны мураш да працы звык. Ён з выгляду слабенькі — WEAR. Ды кожны ведае, што ён насамрэч вельмі дужы — STRONG».

Кніга не ўтрымлівае граматычных правілаў, але на першым этапе малому дастаткова ведаць, як называюцца прадметы ў яго пакоі, на двары, у школе, якія існуюць колеры, што ён любіць есці, з якімі цацкамі гуляць і г. д. Канечне, слоў у выданні не хапае, таму праз два-тры тыдні спатрэбіцца новы дапаможнік.

Хацелася б убачыць у кнізе больш грунтоўны і зразумелы фанетычны раздзел.




У Алены Церашковай ён вельмі маленькі! Пры тым, што гукі — ці не самае складанае ў любой новай мове, і важна з самага пачатку старацца вымаўляць іх правільна.

Дарэчы, праз кнігу «Англійская мова. Слова за словам» малы вывучыць адразу дзве мовы, у тым ліку беларускую. «Родная мова — ключык да роднай зямлі, яе скарбаў, загадак і таямніц», — нагадвае аўтар. Не бойцеся перагрузіць дзіця інфармацыяй! Дзеці запамінаюць да 30 слоў у дзень! Галоўнае — каб працэс быў цікавым.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Грай, дуда!

**Вялікі канцэрт гуртоў, дудовыя імправізацыі на свежым паветры, абмеркаванні тэарэтычных і практычных аспектаў выкарыстання гэтага старажытнага інструмента, сустрэчы са старымі сябрамі і новыя знаёмствы з калегамі ды паплечнікамі. Так можна ахарактарызаваць «Дударскія фэсты», што ўжо многа гадоў праводзяцца ў нашай краіне. Не стаў выключэннем і сёлетні, які не так даўно прайшоў у Музейным комплексе старажытных народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі».**



Майстар і дудар Юрась Панкевіч (гурт «Пава»).



«Капэла Дудзяжы велькапольскіх», Польшча.

## ВЯРТАННЕ ПРАЗ ДВА ГАДЫ

Падчас мінулага «Дударскага фэсту», што прайшоў у 2013 годзе, арганізатарамі было прынята рашэнне праводзіць фестывалі не штогод, як было раней, а раз на два гады. І, здавалася б, гэты факт павінен быў спрацаваць на карысць фэсту, зрабіць яго больш чаканым і запатрабаваным. Але ж за гэтыя два гады ў дударскім руху адбылося шмат важных падзей. Так, аднойменныя сустрэчы «Дударскага клуба», які цягам вясновага сезона збіраў аншлагі ў сталічным Jack Club, а пляцоўкамі для прафесійных сустрэч (нават у міжнародным фармаце) сталі адмысловыя дударскія секцыі, што ўжо традыцыйна праводзяцца падчас Кангрэса даследчыкаў Беларусі ў літоўскім Каўнасе і канферэнцыі «Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання» ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Ды і публіка не зусім засумавала па «Дударскім фэсце»: канцэрты гуртоў, што зазвычай у ім бяруць удзел, рэгулярна праходзяць у сталіцы, можна наведаць вечарыны капэлы «На таку» ці схадзіць на летнія сустрэчы на «Карчы».

Магчыма, гэтымі прычынамі можна патлумачыць нешматлюднасць сёлетняга «Дударскага фэсту». Ён не сабраў шмат публікі, не выклікаў шырокай увагі журналістаў.

Ці, можа, справа ў традыцыйнасці праграмы? Падчас вялікага канцэрта ў межах фэсту выступілі гурты «Стары Ольса», «Літы Талер», «Пава», чые праграмы суправаджаліся танцамі калектыву «Фламея» ды прадстаўленнямі вулічнага тэатра «Вір». Сюрпрызам стала выступленне сямейнага дуэта Андрэя і Аксаны Мароз, які прадставіў праграму на шатландскіх валынках, а таксама «Капэлы Дудзяжы велькапольскіх» з Познані, што прадэманстравала традыцыйныя польскія найгрышы ды танцы.

Зрэшты, нельга сцвярджаць, што бочка «Дударскага фэсту-2015» была цалкам напоўненая дзёгцем звыкласці. Быў і мёд адкрыццяў, знаходак і цікавых меркаванняў, якія прадставілі ўдзельнікі, так бы мовіць, афіцыйнай часткі фестывалю — канферэнцыі «Захаванне дударскай традыцыі Прыбалтыйскага рэгіёна Еўропы».

## ШЫПЫ? МАГЧЫМА!

Як павінна выглядаць дуда? Ці варта адраджаць традыцыю спеваў пад гукі інструмента? Як забіць казу, каб яе скура была найбольш прыдатнай для вырабу дуды? На гэтыя і іншыя пытанні шукалі адказы навукоўцы і майстры падчас канферэнцыі. Прадстаўлены новыя іканаграфічныя крыніцы з фондаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу. Адбылася прэзентацыя двухбурдоннай дуды, упершыню ў наш час вырабленай маладым майстрам Сяргеем Чубрыкам паводле старажытнага малюнка. Уразіў даклад спадара Януша Яскульскага, куратара Музея старажытных інструментаў (Познань, Польшча).

— У Санкт-Пецярбургу не так даўно былі знойдзеныя дзве новыя выявы дуды, — распавёў музыка і даследчык, арганізатар «Дударскага фэсту» Зміцер Сасноўскі. — Адна з іх — агітацыйная брашурка 1924 года «Чырвоны дудар». Яна заклікае сялян уступаць у калгас. Такі падыход — нонсэнс. Як можа дудар, вольналюбівы чалавек, заклікаць сялян да ўступлення ў калгас? Дарэчы, дуда на брашуры па канструкцыі вельмі нагадвае інструмент, што захоўваецца ў краязнаўчым музеі ў Лепелі. Другая новая выява — на часопісе «Лучынка», які выдаваўся ў 1914 годзе. Адметнасць гэтай дуды ў тым, што жалейка інструмента надзвычай доўгая і тонкая.

Новыя выявы даслаў Зміцеру з Санкт-Пецярбурга Мікола Нікалаеў, доктар філалагічных навук, супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі. Але на гэтым даследаванні іканаграфіі дуды не скончаныя. Спадар Сасноўскі заўважыў:

— Калісьці Музей беларускага кнігадрукавання ў Полацку ладзіў выстаўку прапагандыскіх улётак 1920-х гадоў. І ў экспазіцыі была брашурка з выявай дудара. Прытым дуда ў яго была дзіўная — з дзвюма рагаўнямі незвычайнай формы. Мы паехалі ў музей, каб яшчэ раз паглядзець на гэтую выяву, але не здолелі знайсці яе. Брашурка так і засталася ў архівах музея. Таму я ўпэўнены, што адкрыцці ў сувязі з выяўленчай прапагандай і дударскімі выявамі нас яшчэ чакаюць!

Зміцер таксама выказаў прапанову сабраць разам іканаграфічны матэрыял па дудзе, што рэгулярна прадстаўляецца на кожнай з канферэнцый. Магчыма, гэтыя выявы стануць часткай новага нумара альманаха Dudar, першы выпуск якога выйшаў у 2012 годзе і вельмі палюбіўся чытачам.

Звярнулі ўвагу даследчыкі і на знешні выгляд дуды. Па меркаванні Алеся Чумакова, прыгожыя інструменты, што сёння робяць беларускія майстры, — стылістычныя нашчадкі лепельскай дуды. Але пры вырабе такіх вышкталцоных дудаў губляецца «дзікі», сялянскі каларыт, а на гэта таксама не варта забывацца. Таму ўзнікла заканамернае пытанне: дзе мяжа паміж традыцыйнасцю выгляду інструмента і ўласнымі эстэтычнымі пераканаваннямі творцы? Тодар Кашкурэвіч, даследчык, майстар, музыка, адказаў так:

— Традыцыйны чалавек заўсёды імкнуўся да дасканаласці. Тыя артэфакты, якія мы бачым пры даследаванні беларускіх дудаў, сапраўды можна назваць брутальнымі. Але тут выбар за намі: падтрымліваць «брутальны» кірунак ці рабіць дуды вышкталцонымі. Мне падаецца, што ў наш постэтнічны, посттрадыцыйны час абодва кірункі маюць права на жыццё. Асабліва актуальна гэта ў часы субкультур. Можа, металіст захоча сабе дуду з шыпамі або з выявай молата Тора. Гэта цалкам магчыма і прымальна ў кантэксце субкультур. Мне вельмі падабаецца, што дуда ўжо заняла сваё месца ў розных субкультурах. Рок, панк, постфальклор, сярэднявечная музыка сёння гучаць з дудой. Гэта вельмі цешыць. Такія тэндэнцыі яшчэ раз пацвярджаюць: інструмент жывы. Сёння няма сэнсу адраджаць сялянскі побыт, сялянскую ментальнасць, таму і жыццё этнічнай музыкі мусіць быць структураваным у адпаведнасці з рэаліямі сучаснасці.

Адзін з пачынальнікаў адраджэння беларускай дудовай традыцыі, майстар Алесь Лось выказаў наступнае меркаванне:

— Галоўнае не сам інструмент, але музыка, якая на ім гралася. Вельмі важна прытрымлівацца менавіта гукавай эстэтыкі. Раней, калі музыкант не меў магчымасці набыць інструмент, ён рабіў яго сам. Таму і атрымлівалася, што скрыпкі, дуды маглі выглядаць не надта прываблівымі эстэтычна. Значэнне мела музыка, мелодыя і пачуццё.

Спадар Алесь распавёў, што цяпер займаецца вывучэннем больш глабальных пытанняў фарміравання і развіцця сусветнай дударскай традыцыі:

— Калі ўявіць гісторыю развіцця традыцыі ў выглядзе дрэва, то тое, што мы вывучаем зараз, — толькі гарызантальны зрэз. Мы бачым асобныя фрагменты, але не ўяўляем «дрэва» цалкам, не можам пабачыць яго карані, — зазначыў майстар. — У 1980-я гады, калі традыцыя толькі пачынала адраджацца, я зрабіў першую дуду, выйшаў з хаты, зайграў. Сабралася ўся вёска. Складана было зрабіць дуду, якая грае, але яшчэ адна складанасць — даказаць, што гэта наша традыцыя, што пад акампанемент дуды танчылі, праводзілі абрады і спявалі.

Апошнія дзесяцігоддзі цалкам пацвердзілі жыццяздольнасць дуды ў сучаснай беларускай музыцы розных стыляў і кірункаў. Больш за тое, даследчыкі пачалі звяртаць увагу не толькі на сам інструмент, але і на працэс яго адраджэння, вывучаць унёсак кожнага з музыкаў і майстроў. Так, даследчык, майстар і музыка Алесь Сурба прапанаваў сваю версію перыядызацыі новага жыцця дуды. Па яго меркаванні, «ажыўленне» інструмента праходзіла ў чатыры этапы. Першы пачаўся ў канцы 1970-х гадоў, калі выйшла манаграфія Іны Назінай, а майстар Лычкоўскі па замове даследчыцы зрабіў дуду. Гэты інструмент і сёння захоўваецца ў фондах Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі. У гэты час майстры толькі спрабуюць выбрабляць дуды, шукаючы той варыянт канструкцыі, які б гучаў найлепш і больш дакладна адпавядаў традыцыі. Другі этап спадар Сурба прапанаваў назваць «рамантычным». Ён прыпадае на 1980 — 90-я гады, калі прыхільнікі дуды пакідаюць горад і з'язджаюць у вёску, каб наблізіцца да разумення традыцыі. Трэці ж атрымаў назву «этнаграфічны» (1990 — 2000 гг.) — час, калі Алесь Лось і Тодар Кашкурэвіч разам з вучнямі і паплечнікамі ладзілі многа этнаграфічных экспедыцый з мэтай больш глыбокага вывучэння дударскай традыцыі беларусаў. Цяпер мы на «новым» этапе адраджэння дуды (пачаўся ў 2003 — 2004 г.): з'яўляюцца новыя музыкі і майстры, якія маюць уласных вучняў і нават развіваюць свае «школы» дударства.

Падчас канферэнцыі ўзнікла дыскусія наконт таго, чаму беларусы ніколі не выкарыстоўвалі рогі жывёл у якасці рагаўнёў інструмента. Намнога прасцей да бурдона прыладзіць гатовы рог быка, чым выбрабляць яго з крывога дрэва. На думку Алеся Лася, рагавень, выраблены менавіта з крывога, выгнутага дрэва, надаваў інструменту надзвычайную магічную сілу.

## «КІДАЙЦЕ КАЗУ З ДРАБІН!»

Вялікую цікавасць прысутных выклікаў даклад госця з Польшчы спадара Януша Яскульскага. Ён распавёў пра традыцыйныя дударскія фестывалі, што праводзяцца ў Познані, штогадовыя дударскія календары, а таксама паездкі на рэтра-цягніках па адмысловым маршруце «Павуціннe вандровак скрыпачоў і дудароў». Звярнуў увагу і на традыцыі вырабу дудаў у Польшчы. Так, існавала меркаванне, што скура, з якой будзе выробленая каза (адмысловая польская дуда, не шытая, але зробленая з цэльнага кавалка), павінна быць знятая з казы (жывёлы) асаблівым чынам, каб пашкоджанні былі мінімальнымі. Для гэтага існаваў спецыяльны спосаб скідвання жывёлы з гарышча па драбінах!..

Няма прычын сумнявацца, што дуда працягне сваё жыццё ў сучасным свеце. І адбудзецца гэта не ў «скансэне» сялянскага жыцця, а ў штодзённай рэчаіснасці беларусаў. Спадзяюся таксама, што і «Дударскі фэст» за два гады перапынку да наступнага фестывалю зменіць фармат і стане сапраўдным святам для майстроў, музыкаў, танцораў, а для гледачоў — адкрыццём новых гуртоў, фактаў, нагодай пасяброўваць з дудой.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**



Фота Наталлі Асмола

# Бібліятэка Гаа Мана

У апошнія некалькі гадоў кітайскі перакладчык і мастак Гаа Ман стаў вядомай фігурай у беларускай літаратурнай перыёдыцы. Пра яго з'явіліся артыкулы ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда», часопісе «Полымя», ды і ў часопісе «Беларусь». «ЛіМ» перадрукаваў яго нататку пра мастака Георгія Паплаўскага ў перакладзе з кітайскай. Газета «СБ. Беларусь сегодня» змясціла інтэрв'ю з перакладчыкам. А ў мінскай кнігарні «Кніжны салон» летась прайшла вечарына ў гонар Гаа Мана — з выстаўкай яго кніг на кітайскай і рускай мовах, з прэзентацыяй рэпрадукцый яго каліграфічных партрэтаў беларускіх пісьменнікаў.

А ў Пекіне ў 2011 — 2015 з Гаа Манам сустрэліся беларускія пісьменнікі і журналісты Навум Гальпяровіч, Вольга Гальпяровіч, Інэса Плескачэўская, Вераніка Карлюкевіч, Алесь Карлюкевіч. Але гэта ўсё — як працяг ранейшых стасункаў легендарнага кітайскага літаратара з Беларуссю. Адкрыўшы нашу старонку яшчэ ў 1950-я гг., Гаа Ман (нарадзіўся перакладчык у 1926 г. у Харбіне) зацікавіўся беларускай літаратурай, культурай. У розныя дзесяцігоддзі літаратар сустракаўся з Максімам Танкам, Заірам Азгурам, Рыгорам Барадуліным, Анатолем Вярцінскім, Святланай Алексіевіч.

У значнай ступені адлюстраванне пісьменніцкіх зацікаўленняў — яго бібліятэка. Уладзімір Лазараў некалі заўважыў: «Характар бібліяфільскіх памкненняў заўсёды падобны на характар самога бібліятэкара...» Не ведаю, ці можна лічыць Гаа Мана бібліяфілам. Інтарэс да кнігазнаўчых зацікаўленняў спрабую задаволіць у яго пекінскай кватэры. Кнігі і карціны — галоўнае, што кідаецца ў вочы. Аснова інтэр'ера — кніжныя паліцы і кніжныя шафы.

— Калі вы пачалі збіраць сваю бібліятэку? — першае, пра што пытаюся ў перакладчыка.

— Бібліятэк было некалькі, — тлумачыць гаспадар. — Першая засталася ў Харбіне, дзе я нарадзіўся, вучыўся і пасля працаваў. Харбін я пакінуў у 1953 годзе. Ужо тады ў мяне былі кнігі на рускай мове. Самы яркі ўспамін — «Як гартавалася сталь» Мікалая Астроўскага.... Тады і пасябраваў з кнігай на рускай мове...

— У Харбіне жыў і рускі пісьменнік, ураджэнец беларускага Ваўкавыска Усевалад Іваноў, — перабіваю я Гаа Мана.

— Мы хадзілі аднымі вулачкамі, а я нічога тады пра яго не ведаў... Праз дзесяцігоддзі з цікавасцю адкрыў яго кнігі. Шмат што з напісанага Усеваладам Івановым — пра Кітай. Непрацяглы час жыў у Шэньяне. І там засталіся кнігі. Атрымліваючы новае прызначэнне, хутка перавязджаў. Кнігі абяцалі прывезці сябры. Але абяцаннямі і завяршылася.

Не ўсё з сабранага ў 1950-я — на пачатку 1960-х гг. захавалася і ў трэцім — пекінскім — зборы Гаа Мана. Прычына — «культурная рэвалюцыя», калі на асобе добрага сябра славянскіх літаратур і культур была пастаўлена пячатка «савецкі шпіён». Мой суразмоўца расказвае «У час "культурнай рэвалюцыі", здаралася, урываліся і ў маю кватэру. Вам не перадаць, якія здзекі даваліся пераежыць у тое дзесяцігоддзе!.. Штосьці тады з кніг «згубілася», знікла бясследна...»

Акідваю вачыма паліцы ў пакоі, дзе перакладчык трымае кнігі славянскіх літаратур. Ёсць у бібліятэцы кітайскага літаратара «Вялікая Савецкая энцыклапедыя» і два выданні «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі». Шукаю вачыма кнігі беларускіх аўтараў. Вось «свежы» томік Святланы Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі». Гэта — перавыданне даўно перакладзенай Гаа Манам і даўно выдадзенай кнігі. Праўда, былі і новыя выданні ранейшай перакладчыцкай працы. Апошняе з іх зроблена да сёлетняга кніжнага кірмашу ў Мінску.

— Кнігі на рускай мове траплялі да мяне самымі рознымі шляхамі, — тлумачыць Гаа Ман. — Былі выпадкі — куплю на выстаўках у Пекіне. Прывозіў з Расіі. Тое, што ў Амерыцы з рускай літаратуры выдавалася, прывозілі мне са Злучаных Штатаў. У значнай ступені бібліятэка пачала фарміравацца з 1974 года, пасля завяршэння «культурнай рэвалюцыі». Тады я і пачаў найбольш актыўна выступаць як перакладчык савецкай літаратуры. У 1978 годзе мяне прызначылі галоўным рэдактарам пекінскага часопіса «Сусветная літаратура». У нас быў бум цікаўнасці да савецкай літаратуры, да рускай класікі. Успамінаю такі эпізод. Вечарам у Пекіне пайшлі ў рэстаран. У кампаніі — славуты рускі празаік Барыс Васільеў і калмыцкі паэт Давід Кугульцінаў. Пытаюся ў афіцыянткі, якая нас абслугоўвала: «Вы чыталі "А золкі тут ціхія"?» Дзяўчына спярша не расчула, ей здалося, што я пра страву нейкую пытаю. Я яшчэ ўдакладніў, сказаў, што за сталом і аўтар сядзіць. Як жа засвяціліся вочы ў афіцыянткі! Яна пералічыла ўсіх герояў аповесці. Сказала, што некалькі разоў чытала. Цяпер ужо Барыс Васільеў зачырванеўся. А Давід Кугульцінаў такую выснову выклаў: «Ёсць аўтары, якіх ведаюць па прозвішчы, а не ведаюць іх твораў. Ёсць творы, якія ўсе ведаюць, не дужа думаючы, хто іх напісаў...» Пра новую хвалю перакладчыцкай увагі да савецкай літаратуры ў 1970-я гг. успамінаецца і такое: пераклады выдаваліся ў кнігах з прадмовамі, дзе і самі творы, і савецкая рэчаіснасць крытыкаваліся. Тыя прадмовы былі своеасаблівымі «ахоўнымі граматамі» да самога факта выхаду той ці іншай кнігі.

Далей аглядаю «рускія» паліцы бібліятэкі Гаа Мана. Вось кнігі з аўтографамі. Томік Ірыны Ракшы «Белы свет» (Масква, 2004 год). Цытую дарчы надпіс: «З нязменнай і вечнай любоўю! Гаа Ману — вялікаму і бессмяротнаму Чалавеку. — Заўсёды Ваша Ірына Ракша». Яе аўтограф — і на альбоме Юрыя Ракшы «Мастак і муза»: «Гаа Ман! Родны мой чалавек! Люблю цябе светла — з памяццю вечнай пра нашага Юрачку. Тут амаль 400 яго работ — 70 фота — Муза і аўтар альбома пісьменнік Ірына Ракша». Прыцягвае ўвагу і томік эпісталярыі Барыса Пастарнака «Існавання тканіна скразная...» Аўтограф на кнізе належыць укладальнікам — Алене і Яўгенію Пастарнакам: «Глыбокапаважанаму спадару Гаа Ману са шчырым захапленнем яго працамі, на радасць і добрую памяць пра падзеі і герояў гэтай кнігі...» Аўтограф і на зборніку паэзіі «Іверскае святло» Андрэя Вазнясенскага (Тбілісі, 1984): «Дарагому Гаа Ману... з радасцю знаёмства. Дзякуй за Ваш подзвіг у адносінах да паэзіі — на дружбу. Андрэй Вазнясенскі. 25 ліпеня ЦДЛ — 1987». На звароце франтыспіса — малюнак Гаа Мана. І яшчэ адзін подпіс: «Дарагому Гаа Ману мой партрэт у абмен на Ваш...» А. Вазнясенскі намаляваў свайго кітайскага паплечніка па літаратурнай ніве.

У бібліятэцы аўтографаў — кнігі Яўгенія Еўтушэнкі, Рыгора Барадуліна («Абразы без абразы») і шмат яшчэ каго. У Рыгора Барадуліна, дарэчы, ёсць верш з прысвячэннем Гаа Ману.

...Карыстаючыся нагодай сустрэчы з ветэранам літаратурнага цэха Кітая, перадаю ў яго бібліятэку некалькі кніжных навінак з Мінска. Усе яны пабачылі свет у выдавецкім доме «Звязда». Гаа Ман з цікавасцю разглядае публіцыстычны зборнік «Беларусь вачыма кітайцаў», кнігу «Стагоддзе на знаёмства», дзе прадстаўлены пераклады кітайскай паэзіі і прозы, зробленыя ў розныя гады, чатыры кніжачкі з серыі «Светлыя знакі: паэты Кітая». У тоненькіх зборніках упершыню асобнымі кнігамі выдадзены па-беларуску вершы Ван Вэя, Лі Бо, Ду Фу, Ай Ціна. Для рэалізацыі гэтага пасвойму ўнікальнага праекта выдавецкі дом «Звязда» стварыў рэдакцыйны савет. І Кітай у гэтым рэдакцыйным савеце прадстаўляе Гаа Ман. Выдатны прыклад літаратурнага пабрацімства!

Разам з Гаа Манам пераходзім у другой пакой яго кватэры-бібліятэкі, дзе знаходзяцца кнігі кітайскіх аўтараў. Аўтары-суайчыннікі, як расказвае гаспадар, звычайна дораць Гаа Ману свае кнігі. Выстаўлены зборы твораў Ба Цзіня, Маа Дуня, Сяа Цзюня, Цаа Іня. Дарэчы, Цаа Інь — перакладчык прозы Міхаіла Шолахава, Льва Талстога. У зборы твораў — публікацыя перакладаў, здзейсненых Цаа Інем.

— І я таксама перакладаў Льва Талстога, яго пісьмы, яго артыкул пра мастакоў, — гаворыць Гаа Ман. — Праўда, погляды вялікага пісьменніка на выяўленчае мастацтва не падзяляю.

У адным з пакояў позірк спыняецца на малюнку рускага паэта Мікалая Ціханава. Гаа Ман паказвае, што на зваротным баку — аўтограф Ціханава.

З асаблівай цікавасцю разглядаю партрэт алеем Валянціна Катаева. І на гэтай рабоце — аўтограф героя выявы.

— Бібліятэка ў мяне сціплая, — гаворыць Гаа Ман. — Але я адчуваю, што гэта акіян ведаў. Калі перагортваю старонку за старонкай кнігі, то адчуваю прыліў цяпла ў целе. З кніг чэрпаю патрэбныя веды. Я шчаслівы, што была магчымасць пабываць у многіх бібліятэках Расіі. Я бачыў бібліятэку А. С. Пушкіна ў яго пецярбургскай кватэры, Льва Талстога ў сядзібе Ясная Паляны, М. Горкага ў Маскве... Я пабываў у многіх сяброў у Расіі і з любоўю разглядаў іх кніжныя зборы...

Значную частку бібліятэкі складаюць кнігі паэзіі. Яно і зразумела. Гаа Ман — аўтар пераўвасабленняў вершаў, паэм Ганны Ахматавай, Максіма Танка, Тараса Шаўчэнкі, Роберта Раждзественскага, Андрэя Вазнясенскага, Уладзіміра Маякоўскага на кітайскую мову. Паэзія і зараз сілкуе жыццё і творчасць Гаа Мана, дапамагае яму пазіраць на час з вышыні прачытанага і перачытанага. Бібліятэка цікаўная да Беларусі кітайца з'яўляецца сапраўды энергетычнай крыніцай любові да славянскага свету, да славянскіх літаратур.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Сумесна з чытачом

**Якіх кніг чакае юны чытач? Гэтае пытанне стала ключавым для «круглага стала», што адбыўся ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда». Удзельнічалі ў ім і расійскія дзіцячыя пісьменнікі з Калінінграда — Ірына Маткова ды Альберт Тайнікаў, якія напярэдадні наведалі некалькі сталічных дзіцячых бібліятэк.**

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч распавёў гасцям пра структуру і сайт установы, пра творчыя стасункі з краінамі бліжняга замежжа, выпуск у Выдавецкім доме «Звязда» перакладной літаратуры, прадставіў кнігі, што выйшлі тут апошнім часам.



Альберт Тайнікаў.



Фота Яўгена Пясецкага

Ірына Маткова.

Удзельнікі разважалі пра пошук герояў і тэм у сучаснай дзіцячай літаратуры Беларусі, пра жанр аповесці для падлеткаў, наколькі юнаму чытачу сёння патрэбна адукацыйная кніга.

Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» і выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка» Святлана Дзянісава прадставіла часопіс «Бярозка», распавяла пра яго структуру, новыя рубрыкі, аўдыторыю і аўтараў. Сваю творчасць для дзяцей прадставілі айчынныя пісьменнікі Алег Ждан і Генадзь Аўласенка.

Загадчык аддзела дзіцячага кнігавыдання Выдавецкага дома «Звязда» Вольга Аляксеева зазначыла: сённяшняя дзіцячая літаратура, у прыватнасці кнігі, якія выдаюцца ва ўстанове, прадстаўлена вершамі, казкамі, буйнымі празаічнымі жанрамі. Бракуе, аднак, апавяданняў. Пра прэзентацыі айчынных аўтараў, чые кнігі пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда», распавяла загадчыца сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 2 Людміла Лустава.

Госця «круглага стала» Ірына Маткова не толькі піша для дзяцей, але і займаецца музейнай педагогікай: Ірына Валер'еўна — супрацоўнік калінінградскага музея «Фридландские ворота». Праз музейныя экспанаты яна раскрывае юным наведвальнікам гісторыю Калінінграда. І. Маткова засяродзіла ўвагу на жанравых асаблівасцях кніг, якія цяпер выдаюцца ў Калінінградзе.

Мастак-ілюстратар, паэт, супрацоўнік рэдакцыі калінінградскага дзіцячага часопіса «Мурр+» Альберт Тайнікаў упэўнены: сучасная літаратура для дзяцей павінна грунтавацца на пэўнай псіхалагічнай падрыхтоўцы. Галоўнае ж для пісьменніка — творчы тандэм з юным чытачом.

Паводле дырэктара цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска Таццяны Швед, гэты «круглы стол» — толькі частка вялікага комплексу мерапрыемстваў, якія сёлета ладзяцца да Міжнароднага дня абароны дзяцей. Так, штогод у Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага праходзіць гарадское свята дзіцячай кнігі «Чытай, сталіца!», падчас якога юныя чытачы ды іх бацькі маюць магчымасць сустрэцца з супрацоўнікамі ўсіх 18 сталічных дзіцячых бібліятэк і прадстаўнікамі Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Бібліятэкарамі вызначана і пяцёрка найбольш запатрабаваных чытачамі кніг 2014 года, у якую ўвайшлі «Казкі Сіняй падушкі» Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, «Сумны суп» Вольгі Гапеевай, серыя кніг «Вялікая маленькая дзяўчынка» Марыі Бяршадскай, «Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй» Наталлі Бучынскай і «Прыгоды Шубуршуна» Алеся Карлюкевіча. Аўтарам года прызнаны Валерый Кастручын. А яшчэ па выніках 2014-га ўганараваны лепшыя юныя чытачы і чытаючыя сем'і.

Таццяна Швед адзначыла, што сёлета ў межах Міжнароднай канферэнцыі «Чытанне і дзеці: дыяпазон бібліятэчных ідэй і магчымасцей» у сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 3 імя А. П. Гайдара адбыўся «круглы стол» з удзелам пісьменнікаў і супрацоўнікаў айчынных і расійскіх дзіцячых кніжніц. Гэта дырэктар Магілёўскай абласной дзіцячай бібліятэкі імя У. І. Леніна Ілона Сарокіна, загадчыца Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя А. П. Гайдара г. Барысава Ірына Цэдрык, прадстаўнікі Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. П. Гайдара г. Масквы і Калінінградскай абласной дзіцячай бібліятэкі імя А. П. Гайдара, а таксама Ірына Маткова, Альберт Тайнікаў ды іншыя.

**Яна ЯВІЧ**

# Тур па малых гарадах

У гарадскім Цэнтры культуры «Гродна» па ініцыятыве Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся вечар грамадзянскай паэзіі «Пад мірным небам Беларусі». Пасля гэтай імпрэзы ўзнікла ідэя арганізаваць тур грамадзянскай паэзіі па малых гарадах Гродзеншчыны, прысвечаны 70-годдзю вызвалення нашай вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Брацъ удзел у ім мне пашчасціла разам з паэтамі Браніславам Ермашкевічам, Людмілай Кебіч, Дзмітрыем Радзівончыкам і аматарам паэзіі, філолагам Аркадзем Гартунгам.

Першы маршрут — Скідзель, гарадская кніжніца сямейнага чытання. У цэнтры залы — выстаўка «Рэспубліка Беларусь адзначае» пра Вялікую Перамогу. У экспазіцыі — кнігі гродзенскіх пісьменнікаў Уладзіміра Саласюка «Ад чэрвеня да ліпеня» і Уладзіміра Ягорычава «Ля парога непагасных ісцін», буклеты серыі «Па дарогах вайны ішлі нашы землякі» пра скідзельскіх камсамольцаў-падпольшчыкаў і ветэранаў ды інш. У такой атмасферы нам засталося толькі дадаць вуснага патрыятычнага слова перад удзячнай аўдыторыяй — старшакласнікамі і настаўнікамі Скідзельскай сярэдняй школы № 1 — і пакінуць у падарунак чытачам кнігі з аўтографамі.

У Шчучынскім раёне нас чакалі ў аграгарадку Васілішкі. Вучні пачатковых класаў мясцовай школы з задавальненнем слухалі верш Браніслава Ермашкевіча пра тое, як ён, калі быў маленькім хлопчыкам, чакаў і не дачакаўся бацьку з вайны. Зразумелі і Людмілу Кебіч, якая прачытала верш «Я дачка ветэрана...» На развітанне падарылі васілішкаўцам чацвёрты выпуск альманаха паэтаў і пісьменнікаў Гродзенскай вобласці «На Нёманскай хвалі», які з удзячнасцю прыняла загадчыца сельскай бібліятэкі Яніна Міраненка.

У Шчучынскай і Мастоўскай раённых бібліятэках працуюць выстаўкі кніг і альбомаў, прысвечаныя юбілею Перамогі і літаратурнай Гродзеншчыне. Шмат увагі раённыя бібліятэкі ўдзяляюць пісьменнікам-землякам. Шчучынская носіць імя Цёткі (Элаізы Пашкевіч). Яе работнікамі распрацаваны цікавы краязнаўчы маршрут да музея славутай паэтэсы. Не застаюцца па-за ўвагай творчыя поспехі сучасных літаратараў-землякоў. Ладзяцца прэзентацыі іх новых кніг. З радасцю былі ўспрыняты свежыя весткі пра тое, што ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» друкуюцца дзіцячыя кнігі Ганны Скаржынскай-Савіцкай, а Іван Пяшко перамог у прэстыжным конкурсе рукапісаў імя Цёткі, творы Наталлі Цвірко ўвойдуць у серыю «Першая кніга паэта» і інш.

У Мастах удзел у туры грамадзянскай паэзіі ўзялі паэтэсы Зінаіда Біліда і Ганна Васілеўская. Да іх далучыліся юныя паэты — вучні Мастоўскай сярэдняй школы № 5.

**Тамара МАЗУР**

*Фестывалі*

# Праект — трохмоўны

Летась, падчас правядзення Міжнароднага фестывалю «Славянскія літаратурныя дажынкі-2014», падпісаны дагаворы аб творчым супрацоўніцтве паміж Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і Краснадарскай, Бранскай, Курскай краявымі арганізацыямі Саюза пісьменнікаў Расіі, Міжнародным Саюзам пісьменнікаў і дзеячаў мастацтваў (г. Сумы, Украіна). Творчыя саюзы і раней працавалі ў кірунку яднання славян-літаратараў.

Вынікам супрацоўніцтва стала сумесная праца над кнігай «Атожылкі славянскага кораня», якая выйшла ў Таганрогу напярэдадні 70-годдзя Перамогі. Гэтае выданне — значны крок літаратараў Беларусі, Расіі, Украіны ў пашырэнне агульнай духоўнай прасторы славян. Кіраўнік праекта з расійскага боку — старшыня Краснадарскага аддзялення СПР Святлана Макарава, каардынатар — паэт, член Саюза пісьменнікаў Расіі і Беларусі Леанід Север. Беларусь прадстаўлялі старшыня абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч і паэтэса Тамара Кручэнка, Украіну — старшыня МСПМ Анатоль Міроненка. Пераклады на ўкраінскую мову зрабіла жыхарка Расіі ўкраінка Вольга Сафронава.

Новая кніга — зборнік лірыкі паэтаў Гомельшчыны, членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, у перакладзе з беларускай мовы на рускую і ўкраінскую. Пераклады твораў Міхася Болсуна, Ніны Шкляравай, Тамары Кручэнка, Міколы Ждановіча, Алеся Дуброўскага, Генадзя Говара, Ганны Атрошчанка ды іншых літаратараў прадставілі расійскія і ўкраінскія калегі.

Творчы праект на трох мовах прэзентаваны ўпершыню. Прыкладам, у 2012 годзе пад куратарствам таганрогскага літаб'яднання «Чайка» і Гомельскага абласнога аддзялення СПБ падтрыманы аўтары-аматары з мясцовых літаб'яднанняў (Гомельшчыну прадставіла літаб'яднанне «Пралеска» Гомельскай ЦБС на чале з сябрам СПБ Евай Дударгай). Праект атрымаўся цікавым, выклікаў рэзананс у чытачоў абедзвюх краін. Прэзентацыя адбылася і на расгоўскай зямлі, і на міжнародным фестывалі «Славянскія літаратурныя дажынкі» ў Гомелі. Затым быў двухмоўны праект, у якім творы прафесійных літаратараў Кубані перакладалі на беларускую мову паэты Гомельшчыны. А ў 2014 годзе вырашана было арганізаваць трохмоўны праект, прычым значную нагрузку, у тым ліку і выдаткі на выпуск кнігі, узяў на сябе расійскі бок. Прэзентацыя адбылася ў Няклінаўскім раёне Растоўскай вобласці ў межах V Міжнароднага фестывалю моста дружбы «Берагі сяброўства» і IX Усерасійскіх чэхаўскіх чытанняў у Таганрогу.

З 15 па 17 мая на Кубані прайшлі творчыя сустрэчы пісьменнікаў Беларусі, Расіі і Украіны, у якіх узяла ўдзел дэлегацыя Гомельскага аддзялення СП на чале са старшынёй Уладзімірам Гаўрыловічам.

Літаратары Гомельшчыны выступілі падчас славянскай літаратурнай гасцёўні, IX Усерасійскіх чэхаўскіх чытанняў на Міжнародным паэтычным мосце дружбы «Берагі сяброўства» ў вёсцы Пакроўскае — раённым цэнтры Няклінаўскага раёна, наведалі памятныя месцы ў Таганрогу, у тым ліку і дом-музей А. П. Чэхава, правялі творчыя перамовы з украінскімі ды расійскімі калегамі. Дасягнулі дамоўленасці аб чарговым праекце, дзе пад куратарствам Гомельскага і Краснадарскага аддзяленняў возьмуць удзел літаратары-пачаткоўцы.

Паэт і грамадскі дзеяч з Кубані Леанід Север, які нямала зрабіў для творчага паяднання беларусаў, расіян і украінцаў, атрымаў Міжнародную літаратурную прэмію імя Кірылы Тураўскага. Ад імя кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Расіі медаль «Ф. М. Дастаеўскі. За прыгажосць, гуманізм, справядлівасць» уручаны беларускаму празаіку і публіцысту Уладзіміру Гаўрыловічу. Многія літаратары Украіны і Расіі адзначаны літаратурнай прэміяй імя В. І. Нарбута, а гомельская паэтэса Тамара Кручэнка — граматай Саюза пісьменнікаў Расіі.

У Гомель беларуская дэлегацыя вярнулася з дагаворам аб супрацоўніцтве паміж адміністрацыяй Няклінаўскага раёна Растоўскай вобласці і Гомельскім раёнам.

**Мікалай ІГНАТОВІЧ**

# Набыткі і здабыткі



Гун-Брыт Колер (у цэнтры) з удзельнікамі кангрэса.

Фота Яўгена Памыткіна

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Мерапрыемствы кангрэса мелі розны фармат: тэматычны блок, «круглы стол», прэзентацыя новага выдання. Удзельнікамі тэматычных блокаў былі навукоўцы, якія працуюць у адным напрамку. Акрамя мадэратара і выступоўцаў, у працы тэматычнага блока ўдзельнічаў дыскутант, які напярэдадні кангрэса знаёміўся са зместам дакладаў, а ў час пасяджэння выказваўся па праблеме і распачынаў супольную дыскусію.

Да 500-годдзя беларускага і ўсходнеславянскага друку было прымеркавана некалькі «круглых сталоў» і прэзентацыя «Скарыніяна: новыя публікацыі». Для ўдзельнікаў кангрэса было прадстаўлена «Поўнае факсімільнае выданне кніжнай спадчыны Францыска Скарыны», альбом-каталог «Кніжная спадчына Беларусі», а таксама кніга «Францыск Скарына на мовах народаў свету», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Дырэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі Сяргей Важнік падкрэсліў значнасць тэматычнага блока, прысвечанага выкладанню беларускай мовы як замежнай. «У Беларускім дзяржаўным універсітэце ёсць досвед выкладання замежным студэнтам: створаны ўмовы для прадуктыўнай працы. Праводзяцца міжнародныя летнія школы беларускай мовы, але ў апошнія гады — нерэгулярна. Прапануем аднавіць традыцыю з улікам цікавасці, якая ёсць у свеце да нашай мовы і культуры», — зазначыў С. Важнік у прывітальным слове.

Падчас першага пленарнага пасяджэння было агучана тры даклады. Першым была прадстаўлена праца Гун-Брыт Колер і Паўла Навуменкі «Новыя тэарэтычныя падыходы да літаратурнай гістарыяграфіі. На матэрыяле беларускай літаратуры 1920 — 1930 гадоў». Два наступныя даклады датычылі гісторыі беларускай мовы. Спецыяліст з Венгрыі Андраш Золтан распавёў пра ўзаемадзеянне дзвюх «рускіх» канцылярскіх моў у XV — XVI ст. і прывёў факты ўзаемаўплыву моў у мінулым. У выніку вывучэння тэкстаў адпаведнага перыяду даследчык прыйшоў да высновы, што слова ***даход*** наўрад ці існавала ў праславянскім слоўніку і, найверагодна, трапіла ў рускую мову са старабеларускай.

Даклад Сяргея Запрудскага быў прысвечаны беларускай літаратурнай мове 1920-х гг. Даследчык расказаў аб практыцы рэдагавання мастацкіх твораў у 1920-я гады і прывёў прыклады «неверагодных, фантастычных з сённяшняга пункту гледжання правак». С. Запрудскі звярнуў увагу на стылістычныя нормы 1920-х гг. Абсалютна нармальным было ўжыванне слоў ***аслабаніць*** («вызваліць») ці ***датыркацца*** («дакранацца»), а словы ***скора*** і ***борзда*** былі больш пашыранымі, чым нарматыўнае сёння ***хутка***. У тэкстах, разлічаных на масавага чытача, запазычаныя словы перадаваліся адпаведна вымаўленню (***маналёг***), тым часам як у элітарных выданнях выкарыстоўвалася напісанне ***монолёг***. Мовазнаўца падкрэсліў, што пры ўсёй важнасці і актуальнасці для нашай культуры 1920-х гадоў пры аналізе тэкстаў пажадана адрозніваць сучаснасць і гісторыю мовы. Па сведчаннях спецыялістаў, мова 1920-х гадоў — гэта, несумненна, гісторыя.

Нямала цікавых дакладаў было прадстаўлена падчас «круглых сталоў» і тэматычных блокаў, прысвечаных самым розным праблемам («Рэлігійны складнік тоеснасці беларусаў», «Праблема атрыбуцыі беларускае літаратуры XIX ст.», «Моўная сітуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім» і інш.). Па выніках кангрэса будзе выдадзены навуковы зборнік у некалькіх частках, які падсумуе здабыткі айчынных і замежных беларусістаў.

Даклад прафесара Альдэнбургскага ўніверсітэта Гун-Брыт Колер і дацэнта філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Паўла Навуменкі стаўся навуковым абгрунтаваннем падрыхтоўкі новай, аўтарскай «Гісторыі беларускай літаратуры». Як зазначыў Павел Іванавіч, «кожны перыяд будзе разглядацца ў адпаведнасці з арэальным і сутнасным напаўненнем культурна-гістарычнай прасторы. Мы звернем увагу на аспекты, новыя для айчыннага літаратуразнаўства. Аналіз літаратурнага рынку часам больш гаворыць пра сітуацыю ў літаратуры, чым рэцэнзіі і дыфірамбы».

У супольным дакладзе «Новыя тэарэтычныя падыходы да літаратурнай гістарыяграфіі» П. Навуменка і Г.-Б. Колер распавялі пра крызіс літаратурнай гісторыі. «Ці магчымая мадэль нацыянальнай літаратуры і гісторыя літаратуры ўвогуле?» — гэтымі пытаннямі заклапочаны многія заходнія даследчыкі: спецыялісты па-рознаму падыходзяць да праблемы, якой мае быць гісторыя літаратуры, далучаная да тэарэтычных інавацый апошніх дзесяцігоддзяў і актуальнага літаратуразнаўчага дыскурсу.

Аналіз выданняў (ад «Гісторыі беларускае літаратуры» М. Гарэцкага да акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя») дае падставы сцвярджаць, што гістарыяграфія нашай літаратуры заўсёды будавалася паводле традыцыйна-храналагічнай мадэлі. «Апошняя акадэмічная гісторыя засведчыла: без апоры на новы метадалагічны падыход стварэнне гісторыі — задача невырашальная, пра што адкрыта заявіў аўтарскі калектыў», — Г.-Б. Колер і П. Навуменка падмацавалі свае словы красамоўнай цытатай і падышлі да заканамернага пытання: як замяніць нарматыўны канон класічных аўтараў і твораў на сённяшні, больш шырокі, падыход да літаратуры?

На думку дакладчыкаў, варыянтаў нямала. Напрыклад, можна звярнуцца да плюралістычнай мадэлі: вылучыць літаратурныя цэнтры, супаставіць розныя мадэлі развіцця і вызначыць, з чаго «складаецца» сусветная літаратура. На месцы адной мадэлі нацыянальнай літаратуры можна адначасова прапанаваць некалькі: гісторыя жанраў, гісторыя аўтараў і інстытуцый, гісторыя праблем, гісторыя прыёмаў... Можна разглядаць асобныя гістарычныя падзеі.

Для распрацоўкі ўласнай гісторыі даследчыкі вылучылі наступныя перадумовы.

Па-першае, надаць перавагу фактару прасторы над фактарам нацыянальнасці альбо мовы.

Па-другое, трымацца катэгарычна адкрытага паняцця літаратуры, адкуль паўстае праблема, што ў дадзены час у дадзенай прасторы лічыцца літаратурай, якую функцыю яна мае, якімі механізмамі выяўляе сваю вартасць.

Па-трэцяе, арыентавацца на плюралістычную мадэль, якая камбінуе мадэль гісторыі прасторы і мадэль храналагічна-інстытуцыянальнай гісторыі. Пры гэтым неабходна ўлічваць гістарычны і сацыяльна-гістарычны кантэкст літаратуры, яго сувязь і ўзаемадзеянне з іншымі рэлевантнымі кантэкстамі.

«Абраная мадэль дазваляе інакш канцэптуалізаваць гісторыю беларускай літаратуры, пераадолець абмежаванасць традыцыйнай мадэлі, дазваляе выйсці да тэарэтычных і практычных актуальных праблем літаратуразнаўчага дыскурсу. Гэта будзе нетрадыцыйна, карысна і цікава!» — падагульніла Гун-Брыт Колер.

Мэта даследчыкаў — стварэнне двухмоўнага беларуска-нямецкага падручніка з паралельнымі тэкстамі. Суаўтарамі кнігі стануць Сяргей Гаранін, Лія Кісялёва, Аксана Бязлепкіна, якія ўзялі ўдзел у пасяджэнні тэматычнага блока «Беларуская літаратурная гісторыя сёння. Праблемы і перспектывы». Да абмеркавання далучыліся і іншыя ўдзельнікі кангрэса.

**Ірына Багдановіч, дацэнт кафедры гісторыі літаратуры філфака БДУ:**

— Стварэнне гісторыі літаратуры нагадвае мне будаванне шафы, якая можа мець розныя памеры, форму, аздабленне, шмат маленькіх палічак альбо мноства вялікіх з нейкімі патаемнымі сховамі — усё залежыць ад умельства майстра і стылю, які пануе ў гэты час. Такое метафарычнае апісанне прыйшло на думку, калі я знаёмілася з сённяшнімі дакладамі. Гісторыя літаратуры — гэта вобраз літаратуры (перыяду ці каскада перыядаў), які склаўся ў даследчыкаў пад уплывам пэўных фактараў. Іх можа быць цэлы шэраг, але я вылучу густ, выхаванне, досвед — у самым шырокім сэнсе. Гэтыя фактары фарміруюць погляд даследчыка і так ці інакш адбіваюцца на яго працы.

**Сяргей Кавалёў, прафесар Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай:**

— У студэнцкія гады мяне зацікавілі кнігі брытанскага філолага-славіста Арнольда Макміліна, бо, незалежна ад канона, які тады існаваў, ён мог дазволіць сабе ўласную іерархію. Мог напісаць, напрыклад, што гэта п’еса Макаёнка няўдалая і чаму няўдалая. Хаця Макаёнак — класік! Для нас гэта быў шок. І калі я прыехаў працаваць у Польшчу, мяне здзівіла, што не трэба зацвярджаць планы альбо экзаменацыйныя білеты. Я сам магу выбіраць, што выкладаць студэнтам.

Цікава, але пісьменнікам часта не падабалася, як пра іх пішуць у акадэмічных гісторыях. Пазней я зразумеў, чаму: ім не падабалася стандартызацыя, імкненне зрабіць з жыцця і творчасці простую схему: нешта абрэзаць, дадаць колер, лініі. Альтэрнатыўная гісторыя — спроба знайсці новую перспектыву. І мне, безумоўна, цікава, што ў выніку атрымаецца.

**Сяргей Гаранін, намеснік дырэктара інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук:**

— Доўгі час у беларускім літаратуразнаўстве існавала «адзіна правільная» матэрыялістычная, марксісцкая метадалогія. Навуковым лічылася толькі тое, што адпавядае гэтай метадалогіі. І акадэмічная «Гісторыя беларускай літаратуры» задавала даследчыкам пэўны калідор. Пісаць дазвалялася пра розных аўтараў, але ставіцца да іх можна было толькі агульнапрынятым чынам. Цяпер гэты калідор не існуе, бо ён ужо немагчымы.

Калі мы паглядзім на будынак Нацыянальнай акадэміі навук, то заўважым, што ён спраектаваны па цэнтрысцкім прынцыпе: цэнтр — гэта паўкруг з вялікай залай пасяджэнняў, дзе гарыць святло навукі. Святло рассейваецца праз калоны, пад калонамі выстройваюцца акадэмікі, дактары, дацэнты, кандыдаты навук, студэнты, а далей і іншыя... Цяпер адзіная метадалогія зруйнаваная, з’явілася сто ліхтароў.

Гісторык літаратуры адлюстроўвае тое, што было, але ў значнай ступені стварае гісторыю сам, пераносіць у мінулае ўяўленні свайго часу. Сёння мы не можам паглядзець на даўнія падзеі вачыма тагачаснага чалавека, дакладна сцвярджаць, як ён успрымаў тыя ці іншыя рэаліі, як чытаў літаратурны твор. Калі браць старажытную гісторыю, то катэгорыі, з якімі мы сёння хацелі б падысці да прыгожага пісьменства, на гэтым матэрыяле не спрацоўваюць. Напрыклад, чужая літаратура вызначалася не паводле мовы ці паходжання, а па веравызнанні. Праваслаўныя творы свае для кожнага праваслаўнага верніка! Каб рэалізаваць канкрэтна-гістарычны падыход да літаратуры, трэба адкінуць стэрэатыпы мыслення. Выкарыстанне розных метадалогій дазваляе абысціся без непатрэбных нацяжак.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**





Фота Ігара Іванова

Прэм'ера харавой folk-fusion сімфоніі «Вясна».

# Нашай спадчыны хараство

**Адчуць атмасферу старадаўніх беларускіх замкаў, пабачыць танцы, якія выконвалі ў XIX стагоддзі Радзівілы, можна было падчас урачыстага адкрыцця мастацкага праекта «Спадчына Беларусі ў сусветным спісе ЮНЕСКА».**

Экспазіцыя, размешчаная на агароджы парку імя Чалюскінцаў у Мінску, уключае рэпрадукцыі работ з выявамі чатырох беларускіх помнікаў, унесеных у спіс Сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА. Гэта Белавежская пушча — унікальны запаведны лес Еўропы, Мірскі замак, пабудаваны яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя, Палацава-паркавы ансамбль у Нясвіжы — рэзідэнцыя найбагацейшай у Еўропе дынастыі Радзівілаў, Геадэзічная дуга Струвэ, прызначаная для вызначэння параметраў Зямлі, што злучае 265 пунктаў у 10 краінах свету.

Аўтарамі праекта «Спадчына Беларусі ў сусветным спісе ЮНЕСКА», які, дарэчы, можна пабачыць ажно да мая 2016 года, з'яўляюцца Аляксандр Аляксееў і Алег Лукашэвіч, лаўрэаты прэміі «За духоўнае адраджэнне».

«Мы маем на мэце паказаць гісторыю і культуру Беларусі, цесныя міжнародныя сувязі нашай краіны. Беларусь — вельмі прыгожая, унікальная зямля. Мы стараемся перадаць гэтую прыгажосць і падарыць яе людзям», — адзначылі аўтары.

З ЮНЕСКА Аляксандр Аляксееў і Алег Лукашэвіч супрацоўнічаюць даўно, выстаўляліся ў Парыжы ў штаб-кватэры арганізацыі. Яны стварылі фотаальбом «Спадчына Беларусі», які стаў вынікам экспедыцый па краіне.

Адкрываючы праект, прадстаўнік Нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА Ілона Юрэвіч падкрэсліла, што «экспазіцыя з'яўляецца яркім сведчаннем важкага ўнёску Беларусі ў сусветную гісторыка-культурную спадчыну». Ва ўрачыстасці ў парку Чалюскінцаў узялі ўдзел... князь Антоній Вільгельм Радзівіл і яго жонка Марыя Дарота дэ Талейран дэ Кастэлян Радзівіл! Так, акцёры сапраўды здзіўлялі гасцей каларытам створаных вобразаў.

А яшчэ з песнямі і танцамі выступалі ансамблі «Грамніцы», «Беларуская песня», «Валачобнікі». Парадавалі прадстаўленнем творчыя калектывы з замкавага комплексу «Мір», Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» ды іншыя.

Экспазіцыя прысвечана юбілейным падзеям: «Сусветнай арганізацыі ЮНЕСКА — 70 гадоў», «Рэспубліка Беларусь у Сусветнай арганізацыі ЮНЕСКА — 60 гадоў», «Нясвіжскі Палацава-паркавы ансамбль ЮНЕСКА — 10 гадоў».

**Марыя ВОЙЦІК**

*Спрадвечнае*

# За мір маліцца...

**Агульнарэспубліканскую акцыю «харавое веча» падтрымалі аматары музыкі і калектывы мастацкай творчасці Беларусі.**

## ПЯРЭЗВЫ

Гала-канцэрт абласнога агляду-конкурсу непрафесійных харавых калектываў мастацкай творчасці адбыўся ў канцэртнай зале «Магілёў» Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы. Сярод удзельнікаў — дарослыя вакальна-харавыя калектывы з акадэмічнай, народнай і эстраднай манерамі выканання.

Перад прафесійным журы стаяла няпростая задача — выбраць лепшых з лепшых. У намінацыі «Хары з акадэмічнай манерай выканання» найвышэйшую адзнаку — дыплом II ступені — было вырашана прысудзіць народнаму акадэмічнаму хору Дома культуры Клічаўскага раёна (мастацкі кіраўнік — Валянціна Халайдова). У намінацыі «Хары з народнай манерай выканання» ўладальнікам Гран-пры стаў заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь хор народнай песні Палаца мастацтваў г. Бабруйска (мастацкі кіраўнік — Васіль Петракоў).

Дыплом I ступені ў намінацыі «Ансамблі з акадэмічнай манерай выканання» атрымаў народны вакальны ансамбль «Альянс» Касцюковіцкай дзіцячай школы мастацтваў (мастацкі кіраўнік — Алена Ісакава). Гран-пры ў намінацыі «Ансамблі з народнай манерай выканання» — у народнага ансамбля народнай песні «Пярэзвы» Цэнтра культуры Бабруйскага раёна (мастацкі кіраўнік — Валянціна Грыгор'ева). Лепшым ансамблем з эстраднай манерай выканання прызнаны ўладальнік Гран-пры агляду-конкурсу — народны эстрадны ансамбль «Парадыз» Ліпеньскага сельскага Дома культуры Асіповіцкага раёна (мастацкі кіраўнік — Наталля Язвінская).

У намінацыі «Вакальныя ансамблі» дыплом II ступені прысуджаны народнаму ансамблю народнай песні «Вечарынка» Ялізаўскага Дома культуры Асіповіцкага раёна (мастацкі кіраўнік — Джэма Рабава). Спецыяльным дыпломам «За ўклад у папулярызацыю і развіццё вакальнага мастацтва» адзначаны народны ансамбль эстраднай песні «Арыён» Палаца культуры вобласці (мастацкі кіраўнік — Ірына БураКоўская).

Пераможцы абласнога агляду-конкурсу возьмуць удзел у фінальных мерапрыемствах агульнарэспубліканскай акцыі «Харавое веча» ў межах святкавання Дня Незалежнасці Беларусі.

## ХАРАВОЕ ВЕЧА

У Малой канцэртнай зале імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі адбыўся канцэрт «Хорам пра мір». Эстрадныя і народныя песні чаргаваліся з сусветна вядомай класікай і сучаснымі творамі. Імпрэзу ладзілі Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі краіны Наталлі Міхайлавай, узорны хор «Тоніка» сталічнай дзіцячай музычнай школы № 1 Л. Александроўскай пад кіраўніцтвам Аляксея Сніткo (канцэртмайстар Яўген Гальцаў), ансамбль «Lacky Q» Мінскай міжнароднай школы пад кіраўніцтвам Вольгі Перагуд (канцэртмайстар Святлана Стэфаненка). Вершаваным словам іх выкананне аздобіў паэтычны тэатр «Рытмы сэрца» студэнцкага клуба БДУІР пад кіраўніцтвам Кацярыны Салаты.

Канцэрту задаваў тон Дзяржаўны камерны хор, які выканаў краналыныя песні «К вам, павшие...» Р. Шчадрына і А. Твардоўскага з цыкла «Чатыры хары на вершы А. Твардоўскага», «Мне Богам дадзена Радзіма» У. Карызны і Д. Марозава ды інш. Прагучалі філасофічныя «Псалом № 50» К. Насаева і «Малітва» В. Кваснеўскага ў выкананні саліставу Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь Дзяніса Іванова і Арыны Аляксеевай.

Выдатна прынялі гледачы прэм'еру песні «Не вярнулі дарогі» А. Чыркуна і А. Русака. Спрычыніліся і ўдзельнікі ўзорнага хору «Тоніка» дзіцячай музычнай школы № 1 г. Мінска імя Л. Александроўскай. Уразіла іх непасрэднае выкананне песень «Sanctus» (з «Дзіцячай месы») Дж. Ратэра, «Анёл» С. Рахманінава і М. Лермантава. Цёпла сустракала публіка ансамбль «Lacky Q» Мінскай міжнароднай школы. Асабліва апладзіравалі гледачы, калі яны выдатна спявалі «Imagine» Дж. Ленана, які са сваёй жонкай, японскай мастачкай-авангардысткай, выступаў за мір на Зямлі.

**Алёна БЕЛАНОЖКА,**
**Дар'я ЛЁСАВА**

# Арт-карагод

Мастацкая галерэя Міхаіла Савіцкага запрашае на выстаўку Ірыны Дзёмінай «ІншыЯ». Скураныя вырабы творцы добра вядомыя прыхільнікам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Асаблівай увагай адзначаны персанальныя выстаўкі «Зямная душа», «Валіза», «Іншае жыццё». Гэтым разам мастачка прапануе новы ўнікальны праект, дзе задаецца філасофскім пытаннем: чаму нашы ўяўленні пра сябе часта не супадаюць з меркаваннем іншых?..

Спецыяльна да Дня абароны дзяцей у галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылася прэзентацыя выстаўкі лепшых работ вучняў заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь «Народная студыя выяўленчага мастацтва» пад кіраўніцтвам Рышарда Мая. Студыя існуе з 1978 года. У мастацкіх колах гавораць, што вядомыя навыкі маленькія творцы не засвойваюць, а зноўку, у яркім аўтарскім каларыце, адкрываюць іх для сябе. Радасць ад такіх адкрыццяў не параўнальная ні з чым і дорыць адчуванне самастойнасці, упэўненасці ў сілах і здольнасцях. Дзіцячыя працы не толькі сапернічаюць з «дарослым» жывапісам, але часта і пераўзыходзяць па змесце або выяўленчай форме, выразнасці або спектры прыёмаў.

Мастацкая галерэя «Беларт» запрашае на персанальную выстаўку жывапісу Элеаноры Бубашкінай «Адлюстраванні». Мастачка здолела захаваць непасрэднасць успрымання і светлы, натхнёны, дзіцячы погляд на свет. Сваімі творамі яна быццам адкрывае нам шлях да гармоніі з сабою і рэчаіснасцю, ад якой не варта ўцякаць у свет фэнтэзі. Лірычны, інтымны, шчыры жывапіс Элеаноры Бубашкінай ілюструе дакладнае ўспрыманне натуры, музычнае валоданне колерам.

У Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага адбылася прэзентацыя новага арт-праекта MEA CULPA беларускага аўтара скульптурных лялек, тэлевядучай, пераможцы міжнародных конкурсаў прыгажосці Ірыны Рамбальскай. У Мінску праект прадстаўлены ўпершыню, аднак у мінулым годзе на персанальнай выстаўцы ў Вільнюсе яго маглі ацаніць еўрапейцы. Гнеў, ганарлівасць, лянота, скваплівасць, абжорства, зайздрасць — грахоўныя вобразы стварающа пры дапамозе гіпертрафіраваных формаў, велізарнай колькасці дробных дэталяў, з сэнсавай нагрузкай. Работы Ірыны Рамбальскай вольныя ад акадэмізму і ўмоўнасцей, створаны ўручную — кожная ў адзіным экзэмпляры. Ідэя праекта — дапамагчы людзям усвядоміць свае грахі і... спыніцца.

Адзіная ў свеце шакаладная копія карціны Марка Шагала «Закаханыя» выстаўлена ў Віцебску — цяпер гэта адзін з многіх унікальных экспанатаў «Музея шакаладу», які на днях пераехаў у цэнтр горада на пешаходную турыстычную вуліцу. Наваселле — стымул для абнаўлення экспазіцыі. Сярод шакаладных шэдэўраў — копія знакамітай карціны, напісаная да 100-годдзя з дня вяселля Марка Шагала і Бэлы Розенфельд. Арыгінал гэтай акварэлі захоўваецца ў музеі Іерусаліма.

На Камсамольскім возеры 18 чэрвеня ў Мінску адкрыецца экспазіцыя з 10 шматметровых прасторавых арт-аб'ектаў вядомых беларускіх мастакоў. Упершыню айчынныя творцы, у ліку якіх — Канстанцін Селіханаў, Канстанцін Касцючэнка, Міхаіл Шыкаў, Павел Вайніцкі, атрымалі такую маштабную прастору для рэалізацыі творчых задум. Аўтары праекта прадставяць гледачу сапраўдны феерверк разнявольных ідэй і формаў, дзе агульная вага экспанатаў перавысіць 20 тон. Выстаўка «АРТ-астравы» будзе працаваць на працягу ўсяго лета.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Хімія, святло і трохі фантазіі

**Выстаўка фатаграфій Марыі Банэ «Ноч і Дзень» адкрылася 27 мая ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Работы, якія экспануюцца ўпершыню, выкананы ў старадаўняй фатаграфічнай тэхніцы гуміарабік (у перакладзе «смала арабскай акацыі»), якая стала папулярнай у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя дзякуючы Джону Пунсі.**



Майстроў, якія ведаюць гэты высакародны спосаб стварэння здымкаў, у Беларусі зусім мала. Працэс вельмі працаёмкі. Спачатку ствараецца негатыў па памеры будучай фатаграфіі, потым — маніпуляцыі са спецыяльным хімічным складам. Як правіла, гэта соль хрому, пігмент пэўнага колеру і сам гуміарабік. Уся гэтая амаль магічная сумесь кладзецца на паперу. Трэба пачакаць, пакуль яна высахне, і затым накласці негатыў, які будзе экспанавацца святлом. Далей складаныя хімічныя ператварэнні, прамыванне будучай работы ў вадзе... і гатовы малюнак, які нагадвае хутчэй карціну, чым фатаграфію.

Сама аўтар бачыць свае працы як магчымасць раскрыць «таемныя, схаваныя ад часу, невядомыя самой сабе бакі душы, праз чорнае і белае — святло і цень — ноч і дзень». Тым не менш яны не супрацьпастаўляюцца, а пераходзяць адзін у адзін, хоць экспазіцыя падзелена на каляровыя і манахромныя выявы.

Марыя Банэ зрабіла з тэхнікі стварэння фатаграфій маляўнічае мастацтва, якое нагадвае паэзію.

Аўтар скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, вучылася метадам класічнай і альтэрнатыўнай фатаграфіі ў беларускага фотамастака Альберта Цэхановіча. Ён таксама прысутнічаў на адкрыцці выстаўкі: «З Марыяй мы пасябравалі яшчэ восем гадоў таму. Ведаю яе як чалавека, які пастаянна ўдасканальваецца, бо сапраўдныя фатографы і мастакі вучацца ўсё сваё свядомае жыццё. Фатаграфію яна ўзвяла ў ранг мастацтва, навучылася валодаць некалькімі класічнымі тэхнікамі».



Распавядаючы пра «залатое стагоддзе» альтэрнатыўных працэсаў у фатаграфіі, Альберт Цэхановіч адзначыў: «Раней да работ прад'яўляліся тры безумоўныя патрабаванні: змест, сіла выразнасці і бездакорная тэхнічная дасканаласць. Зараз жа фатограф знаходзіць нейкі «фокус» апрацоўкі, прымяняе яго і мае поспех. З тэхнікай гуміарабік так не праходзіць». Фатаграфічныя творы Марыі Банэ захоўваюцца як у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, так і ў Дзяржаўным музейна-выставачным цэнтры РОСФОТО (Санкт Пецярбург, Расія), а таксама ў прыватных калекцыях. Работы апублікаваныя ў альбомах, каталогах і часопісах. Выстаўка «Ноч і дзень» працягнецца да 7 чэрвеня.

**Марыя ВОЙЦІК**



*Сцэна са спектакля «Мудрая маладосць».*

# Маладосць без узросту

Спектакль «Мудрая маладосць» на сцэне Навагрудскага раённага Дома культуры прадставіў тэатральны клуб «Элегія», створаны пры аддзяленні дзённага знаходжання для грамадзян пажылога ўзросту тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Пастаноўка на беларускай мове, артысты — жыхары горада, якім за 60 гадоў. Праз ігру акцёраў і іх рэплікі гледачы даведваюцца пра жыццё роднага горада — падзеі, якія адбываюцца штодня. Сюжэтная лінія дазваляе сачыць за жыццём трох гераінь: Ганны, Веры і Мані. Яны розныя па характарах і інтарэсах, адсюль — непаразуменне, спрэчкі і асуджэнні. Аднак ёсць і тое, што аб'ядноўвае, — актыўная жыццёвая пазіцыя. Адзінокія пенсіянеркі прыходзяць у аддзяленне дзённага знаходжання для пажылых людзей, дзе кожны можа знайсці справу да душы. З гэтага моманту жыццё змяняецца да лепшага...

Галоўным энтузіястам стварэння тэатра і рэжысёрам пастаноўкі выступіла загадчыца аддзялення Іна Гайба. Напісала п'есу Кацярына Бесараб.

Пастаноўка зацікавіла публіку: атрымалася жыццёвай і па-добраму смешнай. Хочацца спадзявацца, што тэатр будзе жыць у новых пастаноўках. А пераадолець любыя цяжкасці дапаможа цудоўны ўзрост — «мудрая маладосць».

**Людміла БАЛАШОВА**

# Серабрыстыя таполі Ваньковіча

Другая палова красавіка і першая дэкада мая прайшлі на Бярэзіншчыне пад знакам 215-годдзя ўраджэнца раёна, беларускага мастака Валенція Ваньковіча.

Знаны майстар у Еўропе роўны рускаму І. Рэпіну, іспанцу Ф. Гою, паляку Я. Матэйку. У назвах вуліц увекавечана імя В. Ваньковіча ў райцэнтры Беразіно і аграгарадку Уша. Ва Ушанскай сельскай бібліятэцы створана пастаянна дзеючая экспазіцыя рэпрадукцый карцін «В. Ваньковіч: запаветнае».

Святочныя мерапрыемствы месячніка славы «Гонар зямлі бярэзінскай» адбыліся ў межах акцыі «Вяртанне Ваньковіча на радзіму». На базе Бярэзінскага раённага дома культуры прадстаўлена перасоўная экспазіцыя музея «Дом Ваньковічаў» у Мінску. Навуковы супрацоўнік музея Наталля Сычова пазнаёміла бярэзінцаў з радаводам старажытнага беларускага роду Ваньковічаў (вядомы з 1350 года),



*Фота Тамары Круталевіч*

*Помнік Валенцію Ваньковічу «Раніца мастака», Мінск.*



*Фота Элеаноры Скуратавай*

*Серабрыстая таполя — равесніца В. Ваньковіча, в. Калюжыцы.*

які даў свету каля 200 выбітных імёнаў, чым фамільным гербам на прагу стагоддзяў з'яўляецца «Ліс».

Панарама культурных мерапрыемстваў прадоўжылася на малой радзіме творцы — у вёсцы Калюжыцы. Юныя мастакі, выхаванцы Бярэзінскай школы мастацтваў імя В. Ваньковіча, наладзілі пленэр «Вандроўны пэндзаль» з напісаннем эцюдаў сельскіх пейзажаў «Вясна на радзіме мастака». Каля памятнага знака на месцы маёнтка Ваньковічаў адбыўся святочны мітынг. Шмат удзельнікаў сабраў маладзёжны велапрабег пад дэвізам «Тут родился тот, кто прославил свой род». Шлях веласіпедыстаў ляжаў праз вёску Калюжыцы, усыпальніцу рода Ваньковічаў, па вуліцы імя В. Ваньковіча ў аграгарадку Уша, а завяршыўся каля будынка мясцовага сельскага Дома культуры, куды была дастаўлена свяцільня як сімвал нязгаснага таленту творцы. Кульмінацыяй мерапрыемства стала святочная вечарына «За гонар маем лічыць земляком». Жыхарам аграгарадка і гасцям з райцэнтра і сталіцы была прадстаўлена слайд-прэзентацыя «Зорны сын зямлі беларускай». Гучала жывая класічная музыка і старадаўнія рамансы ў выкананні выкладчыкаў Бярэзінскай школы мастацтваў імя В. Ваньковіча. Адбылася прэзентацыя рамана-эсэ Яўгена Хвалея «Серабрыстыя таполі», прысвечанага мастаку-юбіляру.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ**

Серабрыстыя таполі пасадзіў бацька Валенція Ваньковіча ў год нараджэння свайго першынца. З тых часоў мінула 215 гадоў. Цяпер у вёсцы Калюжыцы, дзе знаходзіўся маёнтак сям'і Ваньковічаў, засталося ўсяго тры дрэвы.

Мастак пражыў нядоўгае жыццё — 42 гады. Атрымаўшы выдатную адукацыю жывапісца ў пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, ён прыехаў у Мінск, дзе жыў у доме брата Эдварда Ваньковіча. У гэтым будынку па вуліцы Інтэрнацыянальнай сёння знаходзіцца музей знакамітага творцы.

Па ініцыятыве Польскага інстытута ў Мінску ў музеі «Дом Ваньковічаў» прайшло святкаванне 215-годдзя мастака. Святочны мітынг у дворыку сядзібы распачаў дырэктар музея Сяргей Вечар, які распавёў пра жыццёвы і творчы шлях В. Ваньковіча. Старшыня Саюза мастакоў Рыгор Сітніца высока ацаніў спадчыну мастака. Пра помнік беларускаму жывапісцу, побач з якім праходзіў мітынг, распавёў яго стваральнік — скульптар Уладзімір Слабодчыкаў. Помнік быў адкрыты ў гонар 200-годдзя творцы. Выява — мастак у Мінску, перад ад'ездам у Парыж.

Упрыгожаннем свята ў дворыку музея сядзібы стала выступленне інструментальнага ансамбля. Настаўнікі Бярэзінскай дзіцячай школы мастацтваў выканалі музычныя творы эпохі В. Ваньковіча.

**Элеанора СКУРАТАВА**

# Вершы, гісторыя, Пушкінскі дом...

**Юрый Лошчыц — расійскі паэт, празаік, публіцыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Патрыяршай літаратурнай прэміі імя святых роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія (2013), сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі. Жыве ў Маскве. Падчас нядаўняга творчага візіту ў нашу краіну Юрый Міхайлавіч распавёў карэспандэнту «ЛіМа» пра жыццёвы шлях і пісьменніцкія набыткі.**



— У мяне даўно склаліся трывалыя творчыя стасункі з выбітным беларускім філолагам-славістам, знаўцам славянскага свету Іванам Чаротам. У Мінску я не ўпершыню. Родам з Украіны, з мястэчка Валегоцулава (пасля вайны — Далінскае) Адэскай вобласці, але на той момант (нарадзіўся пісьменнік у 1938 годзе. — **Я. Я.**) тэрыторыя маёй малой радзімы належала да так званай Малдаўскай АССР, якая праіснавала нядоўга. Там я жыў да шасці гадоў.

**— Кім былі вашы бацькі?**

— Маці працавала настаўніцай пачатковых класаў, а яшчэ выкладала ўкраінскую мову. А бацька неўзабаве пасля майго нараджэння, напрыканцы 1939 года, пайшоў служыць у армію. Пад Ленінградам яго заспела Вялікая Айчынная вайна. Ён ваяваў і падчас блакады, прайшоў шлях ад радавога да маёра, вайну скончыў намеснікам камандзіра палка. Упершыню мы пабачыліся толькі ў 1945-м: бацьку перавялі ў Сібір, і мы з мамай пераехалі туды. У Новасібірску я пайшоў у першы клас — натуральна, у рускую школу, хоць да вучобы гаварыў пераважна па-ўкраінску.

**— Якія кнігі чыталі ў дзяцінстве?**

— Знаёмства з кнігай пачалося яшчэ да вайны. У 1939 г. мама разам са мною пераехала да сваіх бацькоў, у мястэчка Фёдараўка Адэскай вобласці. У яе былі ўсе дапаможнікі, неабходныя для пачатковых класаў. Чытаць пачаў, калі пайшоў у школу. Першай кнігай, якую больш разглядаў, чым чытаў, было маштабнае выданне пра рускіх палкаводцаў, некалі падоранае бацьку. Графічныя выявы Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога, Аляксандра Суворава, Міхаіла Кутузава, а таксама выйграных імі бітваў, кароткія звесткі пра гістарычных дзеячаў...

Пазней, калі ўсёй сям'ёй пераехалі ў Маскву, бацька паступіў у Ваенна-палітычную акадэмію на факультэт ваеннай журналістыкі. У сям'і пачалі з'яўляцца іншыя кнігі, сярод якіх вялікі том твораў Аляксандра Пушкіна, дзе ілюстрацыямі суправаджался толькі «Яўгеній Анегін». Менавіта з гэтай кнігі пачалося маё пранікненне ў свет вялікага паэта. Даволі шмат чытаў мне бацька: вершы А. Пушкіна, М. Лермантава... Запамінаў я хутка, і калі на канікулах, па прыездзе ва Украіну, пачаў дэкламаваць тыя самыя творы бабулі з дзядулем, яны былі вельмі ўражаныя маім валоданнем рускай мовай.

**— Ці шмат чытаеце сёння?**

— Калі пішацца, стараюся як мага радзей пераключацца на чытанне, каб прытрымлівацца пэўнай тэматыкі, пэўнага рытму. Гэта, аднак, удаецца не заўсёды. Калі працую над вялікай па аб'ёме кнігай — прыкладам, над біяграфічнай, — перад тым як пачаць пісаць, цягам некалькіх гадоў збіраю матэрыял. Так, ствараючы кнігу «Дзмітрый Данскі», чытаў розныя летапісы, бо адны і тыя ж гістарычныя падзеі ў розных крыніцах апісваюцца па-рознаму, творы рускіх і сучасных гісторыкаў, пачынаючы з М. Карамзіна і В. Ключэўскага. Сёе-тое канспектаваў. А падчас працы над жыццяпісам Івана Ганчарова, аўтара рамана «Абломаў», працаваў у Пушкінскім доме г. Санкт-Пецярбурга, дзе захоўваецца яго пісьмовы архіў.

**— З чаго пачынаўся шлях у літаратуру?**

— Мае творы пачалі публікавацца ў калектыўных зборніках вершаў паэтаў МДУ, калі я быў першакурснікам Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (вучыўся на рускім аддзяленні філалагічнага факультэта). У МДУ наведваў і студэнцкае літаб'яднанне, якім кіраваў паэт Павел Антакольскі.

**— Які літаратурны твор лічыце добрым?**

— Той, што захапляе, вабіць, уцягвае ў сюжэт, пераносіць у іншую эпоху ці краіну, прычым зусім не важна, хто аўтар.

**— Калі ўпершыню пазнаёміліся з беларускай літаратурай?**

— У Беларусь я ўпершыню прыехаў у 1988 годзе, прычым не ў Мінск, а ў Слуцк, каб знайсці сваю стрыечную сястру па бацькавай лініі — Таісію Салавей, якая працавала там урачом. Першая кніга, прачытаная мною ў арыгінале, — «Жалейка» Янкі Купалы.

На той час я ўмеў чытаць і па-сербску. Вучыўся гэтаму самастойна, пасля таго як у 1980-я прачытаў у перакладзе на рускую мову сербскія эпічныя песні так званага «Касаўскага цыкла», прысвечаныя Касаўскай бітве 1389 года. Уразіла, што адбылася тая бітва літаральна праз некалькі тыдняў пасля смерці героя майго твора — Дзмітрыя Данскога.

**— Ці ёсць любімая кніга, пісьменнік?**

— Цягам многіх гадоў часцей за ўсё чытаю — дакладней, перачытваю — Евангелле. Гэта, на маю думку, кніга кніг. Вельмі люблю творчасць Івана Буніна, Міхаіла Прышвіна, Андрэя Платонава.

**— Над чым працуеце цяпер?**

— Гадоў пятнаццаць таму пабачыла свет мая празаічная кніга «Пасляваенное кіно», напісаная ад першай асобы. У ёй няма выдуманых персанажаў — толькі родныя і сябры дзяцінства. А сёння пішу пра яшчэ больш ранні перыяд — жыццё на акупіраванай тэрыторыі, прычым таксама без вымыслу.

**Яна ЯВІЧ**

# Акцэнт на рэалізм

**Сустрэча маскоўскага творцы, сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Юрыя Лошчыца і старшыні СПБ Мікалая Чаргінца адбылася ў сталічным Доме літаратара. Гутарка творцаў датычыла беларуска-расійскіх літаратурных стасункаў і перспектыў творчага ўзаемадзеяння.**

На сустрэчы прысутнічалі першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, сакратар Георгій Марчук, галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота і доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня секцыі перакладу СПБ Іван Чарота. Напачатку Мікалай Чаргінец коратка распавёў госцю пра гісторыю стварэння, штат, склад і дзейнасць СПБ, выданне кніг, ганарары і публічныя выступленні айчынных пісьменнікаў, у тым ліку маладых аўтараў.

Прадэманстраваў Мікалай Іванавіч і кнігі пачаткоўцаў ды сталых сяброў СПБ, якія, адпаведна, выйшлі ў серыях «Маладая паэзія Беларусі» (выдавецтва «Харвест») і «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» (выдавецтва «Чатыры чвэрці»), а таксама друкаваны орган Саюзнай дзяржавы — часопіс «Белая Вежа». Згадаў пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны — паэта Мікалая Іванова ды празаіка Алеся Савіцкага, урокі мужнасці, якія праходзяць у Мемарыяльнай зале Дома літаратара.

Юрый Лошчыц, у сваю чаргу, распавёў пра тое, як ладзяцца творчыя сустрэчы і святкуюцца юбілеі расійскіх творцаў, пра выязныя пленумы саюза пісьменнікаў Расіі. Абласныя і краявыя пісьменніцкія арганізацыі за кошт дзяржаўнага бюджэту спрыяюць як выданню першых кніг маладых аўтараў, так і кніг творцаў старэйшага пакалення.

Узгадаў Юрый Міхайлавіч і пра творчы набытак майстроў так званай «вясковай прозы» — Валянціна Распуціна, Васіля Бялова і Віктара Астаф'ева, а таксама пра «помнік рускаму сялянству», створаны паэтамі мінулага стагоддзя — такімі, прыкладам, як Мікалай Рубцоў, што пакінулі пасля сябе неўміручыя радкі, прысвечаныя рускай вёсцы. У сённяшняй жа літаратуры Расіі, на яго думку, акцэнт робіцца ў асноўным на рэалізм, на «прозу факта». Згадаў творца і кнігі пісьменніка Аляксея Карпава, у прыватнасці «Уладзіміра Манамаха» з серыі «Жыццё знакамітых людзей».

Юрый Міхайлавіч раскрыў гісторыю сваёй працы над кнігай пра роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія, якую пачаў яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя, збіраючы матэрыял па сучасных Славакіі, Чэхіі, Турцыі ды іншых мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю славутых братоў. Пры канцы сустрэчы Ю. Лошчыц атрымаў з рук Мікалая Чаргінца медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».

**Яна ЯВІЧ**

# З чаго пачынаецца літаратура

Творчая сустрэча рускага пісьменніка Юрыя Лошчыца са студэнтамі адбылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Публіцыст, мысляр, філолаг, літаратуразнаўца і біёграф выступіў перад навучэнцамі філалагічнага факультэта, распавёўшы пра канцэпцыю сваіх твораў, творчасць калег, рэлігійныя матывы ў літаратуры.

Шмат увагі Юрый Лошчыц надаў філалогіі — сваім незвычайным адносінам да гэтай навукі, у якой, на яго думку, крыецца сакральны сэнс. «Слова — гэта Бог. Менавіта яно, увасобленае ў Хрысце, стала задумай і пачаткам усяго свету, цывілізацый, вялікага шляху чалавецтва», — запэўніў пісьменнік, спасылаючыся на Евангелле ад Іаана.

«Пішу, абапіраючыся на жыцці святых, у прыватнасці Кірылы і Мяфодзія: яны — важныя элементы эпохі. У гэтых крыніцах шмат фактычнага матэрыялу. З іх пачынаецца літаратура славянскіх народаў», — адзначыў творца.

Работы пісьменніка, як і сучаснікаў, калег, пра якіх ён казаў на сустрэчы, могуць падацца простымі, немудрагелістымі, затое тояць вялікую глыбіню.

Юрый Лошчыц — лаўрэат шматлікіх прэстыжных літаратурных прэмій і ўзнагарод. Зусім нядаўна ён атрымаў медаль за заслугі ў галіне літаратуры ад Саюза пісьменнікаў Беларусі. Творчы шлях пачынаў як паэт, некаторы час захапляўся журналістыкай, але затым канчаткова заняўся напісаннем біяграфій.

«Мяне вабіць не мастацкая выдумка, а магчымасць асэнсаваць сапраўдныя гістарычныя падзеі і чалавечыя лёсы», — прызнаўся біёграф. Дзякуючы яму мы можам пазнаёміцца з жыццяпісамі Івана Ганчарова, Дзмітрыя Данскога, Кірылы і Мяфодзія.

Многія творы Юрыя Лошчыца прысвечаны тэме Сербіі — пра гэтую краіну, яе гісторыю і сучасны стан ён таксама шмат казаў на сустрэчы.

«Цяпер літаратурнае слова губляе сваю сілу, уладу і ўздзеянне. У адрозненне ад часоў Пушкіна, Гогаля, Дастаеўскага, Талстога, калі руская літаратура была ўзорам густу. На сыходзе мінулага тысячагоддзя і ў самым пачатку новага яна пацвярджала свае правы быць класічнай. У нашых руках — яе далейшае развіццё», — падсумаваў творца.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Душою дакрануцца

На радзіме сваіх прашчураў, у Слуцку і на Случчыне, пабываў вядомы рускі пісьменнік Юрый Лошчыц.

У Лапацічах пахаваны прадзед Юрыя Міхайлавіча. Прыязджаў сюды пісьменнік у 1988-м і 2000 годзе, сустракаўся з далёкімі і блізкімі суродзічамі ў Слуцку і Лапацічах. Наведаўся і сёлетнімі майскімі днямі.

— Яшчэ ў 1988 годзе я пазнаёміўся са слуцкім краязнаўцам Рыгорам Родчанкам, — расказвае Юрый Лошчыц. — Нават псеўданім яго памятаю — Рыгор Лінкор. Шмат невядомага адкрыў для сябе пра Слуцкі край. Рады і сёлетняй сустрэчы з роднай зямлёй. Удзячны дырэктару Слуцкага краязнаўчага музея Наталлі Серык, супрацоўніку музея Васілю Цішкевічу за змястоўную экскурсію. За тое, што пазнаёміўся з блізкай да Лапаціч Свята-Сімяонаўскай царквой у вёсцы Барок і яе настаяцелем протаіерэем Георгіем Пятроўскім.

Пільна ўглядаючыся ў гісторыка-краязнаўчы ландшафт Случчыны, Юрый Лошчыц выказаў упэўненасць, што ў сваёй творчасці паспрабуе яшчэ ўвасобіць партрэты блізкіх яму мясцін і родных людзей, найперш — сваіх прашчураў.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Свет, які натхняе

У Брэсце адбыўся V Рэспубліканскі конкурс маладых паэтаў «Мы народжаны дзеля натхнення», які праводзіцца Рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем «Руская грамада» пры падтрымцы Пасольства Расійскай федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, Прадстаўніцтва Расупрацоўніцтва, Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Пераможцамі конкурсу ў абедзвюх намінацыях — «Што помніць выратаваны свет?» і «Гэты свет, прыдуманы не намі» — сталі юныя паэтэсы, студэнткі з г. Мінска Таццяна Купрыянец і Ганна Мартынчык, кандыдаты ў члены СПБ. Яны былі накіраваны ў Брэст для ўдзелу ў конкурсе Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ як лаўрэаты-пераможцы сталічнага творчага конкурсу.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Палёт «Сіняй птушкі»

Дзядзька Фрэйд сцвярджаў, што ў план стварэння свету не ўваходзіла задача зрабіць чалавека шчаслівым. Шукаць шчасця чалавек даўмеўся сам. Калі грунтоўна апісваць гэтыя пошукі, не пазбегнуць спасылак на міфы, легенды і асабліва — на казкі. Самая вядомая тэатральная казка пра пошук шчасця — «Сіняя птушка» Марыса Метэрлінка. Яна ж — найскладанейшая для тэатральнага ўвасаблення: зашмат дзеючых асоб з загадкавымі ўчынкамі, нямала тэксту, дзе паўтараецца тое, што можна паказаць... Але тэкст — выбітны і асобы — адметныя...

Для Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача пошукі «Сіняй птушкі» ўвасобіліся ў шасцігадовае чаканне рэканструкцыі будынка па вуліцы Энгельса, 26 у Мінску і святочную фантазію прэм'еры, паяднанай з адкрыццём. Над спектаклем працавалі рэжысёр Уладзімір Савіцкі, мастак Віктар Цімафееў, кампазітар Сяргей Бельцюкоў; касцюмы прыдумала Наталля Сардарава, вершы для песень — Алесь Бадак, пераклад — аўтара гэтых радкоў.

Па Птушку шчасця Тэатр юнага гледача выправіўся 1 чэрвеня. Найпершаму — ранішняму — паказу спектакля папярэднічала ўзнагароджванне стыпендыятаў прэміяй спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Узнагароды ўручала намеснік Прэм'ер-міністра Наталля Качанава.



Фота Сяргея Жданоўіча

Сцэна са спектакля «Сіняя птушка» Марыса Метэрлінка.

Увечары сачыць палёт «Сіняй птушкі» запрасілі будаўнікоў трэста № 1 і ўсіх, хто яго наблізіў і спрычыніўся да аднаўлення тэатральнага будынка. На чэрвеньскія спектаклі квіткі разабралі імгненна, нават Каляды, акурат на якія здзяйсняюцца ўсе цуды спектакля, нікога не здзівілі. Па-ранейшаму найважнейшымі паўстаюць павароты чароўнага дыямента (ім герояў спектакля вучыць карыстацца фея): каб разумець пачуцці і адвагу «незаўважнай» чалавечай душы ў каштоўнасцях паўсядзённага існавання. Іншымі словамі, Сінюю птушку бачаць толькі тыя, хто вельмі чакае і штодня набліжае палёт...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# Скарбы Брытаніі



Джордж Фрэдэрык Б'юкэнэн «Замак Стэрлінг». Каля 1850 г.

Выстаўка «Сустрэча з Брытаніяй: англійскае мастацтва XVIII — XIX стагоддзяў» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Арганізаваная сумесна з Пасольствам Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі ў Рэспубліцы Беларусь, Дзяржаўнай мастацкай калекцыяй Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, экспазіцыя змяшчае больш як 30 твораў майстроў XVIII — XIX стагоддзяў — перыяду фарміравання і найвышэйшага росквіту нацыянальнай англійскай мастацкай школы.

Унікальнасць брытанскай культуры ў цэлым і мастацтва ў прыватнасці абумоўлена такімі супярэчлівымі рысамі, як астраўная ізаляванасць і здольнасць да кансалідацыі, мноства культурных уплываў і збалансаванасць традыцый, прыхільнасць да старажытных звычаяў і ў той жа час усведамленне свабоды і годнасці асобы, павольнае развіццё мастацкай мовы і хуткае авалоданне ёю. XVIII стагоддзе стала часам бліскучага росквіту англійскай культуры: філасофія і літаратура Англіі прыцягваюць да сябе ўвагу перадавых мысляроў Еўропы. У другой палове стагоддзя разам з Францыяй Вялікабрытанія становіцца заканадаўцай еўрапейскіх мастацкіх густаў.

Заснавальнікам нацыянальнай школы жывапісу і знакавай фігурай брытанскага мастацтва першай паловы і сярэдзіны XVIII стагоддзя становіцца Уільям Хогарт (1697—1764), чый смелы рэалізм пазней аказаў уплыў на многія стылістычныя з'явы. У англійскім мастацтве таго часу першынство належыць жанру партрэта, а ў шэрагу іншых еўрапейскіх краін — гістарычнаму і міфалагічнаму жывапісу. У XIX стагоддзі Англія становіцца радзімай новага еўрапейскага пейзажа, адэкватнага чалавечаму бачанню адлюстравання прыроды, і робіць гэта адкрыццё на некалькі дзесяцігоддзяў раней за жывапіс кантынентальнай Еўропы. Тады жназіраецца росквіт такога феномена заходнееўрапейскага ландшафтнага мастацтва, як англійскі парк.

Панаванне жывапісу над усімі іншымі відамі мастацтва — характэрная брытанская рыса мастацтва XVIII — XIX стагоддзяў. З росквітам нацыянальнай школы жывапісу значных поспехаў дасягае і рэпрадукцыйная гравюра. Англійскія гравёры становяцца сапраўднымі суаўтарамі мастакоў: творча перапрацоўваюць жывапісныя арыгіналы, знаходзячы новыя адценні гучання. Майстры гравюры Брытаніі зрабілі неацэнны ўнёсак у развіццё новых гравіравальных тэхнік, якія з'явіліся ў XVIII стагоддзі. З імем Уільяма Блэйка звязана вынаходніцтва арыгінальнага спосабу друку — выпуклага афорта, а з імем Томаса Б'юіка (1753—1828) — тэхнічныя і мастацкія ўдасканаленні гравюры на дрэве (ксілаграфіі). Невыпадкова XVIII стагоддзе нярэдка называюць «залатым векам» брытанскай гравюры.

Разам з жывапісам і гравюрай росквіту дасягае брытанскае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, у прыватнасці фарфор і кераміка, якія атрымалі шырокае распаўсюджванне ў многіх еўрапейскіх краінах. На выстаўцы прадстаўлены ўзоры англійскай керамікі XIX стагоддзя, выкананыя пераважна на прадпрыемствах графства Стафардшыр — старэйшага керамічнага цэнтра Англіі.

Экспазіцыя працягвае знаёміць аматараў з класічным і сучасным мастацтвам астраўной дзяржавы. У Нацыянальным мастацкім музеі ўжо адбыліся выстаўкі «Фотаздымкі прарафаэлітаў» (1996), «Пітэр Блэйк. Алфавіт» (1997), арганізаваныя Брытанскім саветам, і адзін з грандыёзных праектаў дзесяцігоддзя — «Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600 — 1800» з калекцыі Музея Вікторыі і Альберта, Лондан (2012). Пазнаёміцца з мастацтвам Брытаніі можна да 13 ліпеня.

**Таццяна ШЧЭРБА**



Томас Джонс Баркер «Батальная сцэна». 1870-я гг.

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 04.06.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2225.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1474 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12